# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**




№ 46 (611) Год XII 12 ЛІСТАПАДА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС

Ужо стала традыцыяй, што Галоўнае праўленне БГКТ супольна з Куратарыяй Беластоцкай акругі кожны год арганізуюць дэкламатарскі конкурс для школьнікаў.

У гэтым годзе прысвечаны ён быў пяцідзесятай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. І так, 29 кастрычніка ў Беласток у памяшканне ГП прыбыло 72 дэкламатараў са школ Гайнаўскага, Бельскага, Беластоцкага, Сямяціцкага і Сакольскага паветаў. У асноўным былі падрыхтаваны паэмы і мантажы вершаў беларускіх паэтаў. Многія груповыя дэкламатары выступалі з паэмай Міхася Машары «Кастусь Каліноўскі». Усе выступленні былі на беларускай мове. Варта адзначыць, што некаторыя ўдзельнікі конкурсу ўплялі ў свой дэкламатарскі рэпертуар рэвалюцыйныя песні, музыку, дэкарацыйныя элементы і прыехалі нават у беларускім народным адзенні.

На асаблівае падкрэсленне заслугоўваюць школьнікі з Белавежы і Мілейчыц. Першыя выкарысталі творы польскіх пісьменнікаў Кашуцкай і Кержульскага ў адаптацыі настаўніцы і адначасова мастацкага кіраўніка Праксeды Дацкевіч. Адзенне дапасавана да ролі кожнага дэкламатара, песні і музыка прыцягвалі ўвагу ўсіх прысутных. Другія, гэта значыць школьнікі з Мілейчыц, таксама паказалі высокі мастацкі ўзровень, выконваючы паэму Міхася Машары «Кастусь Каліноўскі». Падрыхтавала іх маладая настаўніца Тэкля Вашчук.

Таксама груповыя выступленні школьнікаў з Войшкаў і Падазяран заслугоўваюць на высокую ацэнку. У некаторых калектыўных выступленнях выявілі вялікую дэкламатарскую таленавітасць паасобныя школьнікі. Да іх перш за ўсё трэба аднесці Віктара Ігнацюка з Рыбалаў і вучаніцу чацвёртага класа з Новаберазова Ліду Галашэвіч. Першы выступаў у ролі Кастуся Каліноўскага (паводле паэмы Міхася Машары), а Ліда Галашэвіч дэкламавала вершы: Петруся Броўкі «Дом у Пароніне» і Сяргея Грахоўскага «У пушчы». У гэтым годзе дэкламатарскі конкурс быў на вышэйшым узроўні ў параўнанні да мінулага года. Усе ўдзельнікі выказаліся добрай падрыхтоўкай, добрай інтэрпрэтацыяй і дыкцыяй. Безумоўна, вялікая ў гэтым заслуга настаўнікаў, якія ў асноўным з'яўляюцца выкладчыкамі беларускай мовы.

Усе 72 удзельнікі беларускага дэкламатарскага конкурсу атрымалі ад Куратарыі рэчавыя ўзнагароды на суму 7 тысяч зл.

Шкада, што ў гэтым вялікім і цікавым мерапрыемстве не ўзялі ўдзелу сярэднія школы, у якіх навучаецца беларуская мова.

М. Хмялеўскі

### АЎТАРСКІ ВЕЧАР

27 кастрычніка ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся аўтарскі вечар Віктара Шведа. Паэт чытаў вершы са свайго зборніка «Жыццёвыя сцежкі» і адно новае апавяданне. Слухачы вельмі цёпла прынялі прачытаныя творы. Аб гэтым сведчыла дыскусія, у якой удзельнікі падкрэслівалі грамадскасць твораў і іх беларускую народнасць. Асабліва высокую ацэнку твораў дала працаўнік Дома савецкай культуры В. Шчасновіч, якая гаварыла аб шматбаковасці тэматыкі вершаў.




Белавежа. Прыродазнаўчы музей. Фота: Г. Рагазінскі

РАЗМОВЫ АБ КУЛЬТУРЫ




Мгр ЮЗЭФ КАЯ кіраўніцтва Аддзелам культуры Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку прыняў з пачаткам гэтага года. Год гэты быў, можна сказаць, у культуры пераломным. Менавіта, скрысталізаваўся ўласны профіль культуры і за ім план развіцця яе ў ваяводстве. Звяртаемся да магістра ЮЗЭФА КАІ.

**— Прадстаўце нам сваю праграму і свой погляд на культуру.**

— Тут навяжу я да праграмы зацверджанай X сесіяй ВРН. Гэта наш пункт выйсця. Праграма накрэсліла асноўныя напрамкі. Дала перспектыву. Стварыла асновы.



**— Гэта культура чалавека думаючага?**

— Як найбольш! Чалавек не можа быць толькі пасіўным прыймальнікам культуры. Ён павінен стацца ядром культурнай дзейнасці.

**— Каб сам тварыў.**

— Так. Чалавек павінен быць заангажаваным у культурныя перамены. Развіццё і рост — нашы галоўныя цяпер імкненні. Сваю вялікую ролю даюць тут грамадска-культурныя таварыствы: нацыянальныя, спецыялістычныя, рэгіянальныя, лакальныя. У апошнія гады гэты грамадскі рух асабліва добра ў нас развіваецца.

**— Вы добра ацэньваеце ролю Беларускага грамадска-культурнага таварыства? На сёлеташнім урачыстым адкрыцці культурнага года ўлады хвалілі яго дзейнасць.**

— Гэтае таварыства сярод грамадскіх таварыстваў мае найбольшую традыцыю ў культурнай працы. Яшчэ ўспомню Літоўскае таварыства, якое добра працуе. Яны найраней пачалі ў нас акцыю грамадска-культурнага руху.

**— Спецыялістычныя?**

— Іх развіццё вядзецца ад 1962—63 года — тады ўзнікла БТН, якое вядзе карысную папулярна-навуковую дзейнасць. У 1963 годзе паўстае музычнае, у 66 — фатаграфічнае, у 67 — наймалодшае — любіцеляў мастацтва.

**—З рэгіянальных якія б вы назвалі для добрага прыкладу?**

— Гэта таварыствы, на якіх нам вельмі залежыць. Такія як у Цеханоўцу ці Белавежы, Аўгустове і апошнім часам у Драгічыне выконваюць вельмі карысную ролю. Трэба, каб у кожным гарадку такая праца вялася, каб займаліся там людзі захоўваннем сваёй народнай спадчыны.

**— Але ж прыклад Цеханоўца, дзе на чале руху стаіць магістр, ці Белавежы, дзе людзі з доктарскімі тытуламі ўзялі культурную працу ў свае рукі, свед-**

(Працяг на стар. 4)

## КРУТЫЯ СЦЕЖКІ АКТЫВІЗАЦЫІ

Свайго часу павятовыя ўлады апрацавалі праграму актывізацыі малых гарадоў і пасёлкаў Беластоцкага павета. А ёсць іх тут даволі многа, каб стацца праблемай нумар адзін. Для лепшай арыентацыі пералічым: Заблудаў, Харошч, Супрасль, Васількова, Чорная Беластоцкая, Гарадок, Міхалова і Тыкоцін. Праграма мела рэалізавацца да 1970 года.

Чаму пішам мела? Проста таму, што былі ўведзены істотныя папраўкі, якія многае з праграмы выкінулі. Выкінута многія пункты не таму, што іх рэалізацыя не патрэбная, але з недахопу сродкаў, памяшканняў і т.п. Для яснасці прывядзем дробны прыклад. У Гарадок прывезлі рэнтгенаўскі апарат. Паставілі. Апарат не дзейнічае з дзвюх прычын: рамонту памяшкання і недахопу спецыяліста. Шчыра кажучы недаразумленне, бо ці ж нельга было каштоўнай апаратуры прывезці ў адрамантаванае памяшканне, а і спецыяліст з адкрытымі рукамі не пабяжыць у Гарадок. Варта было б падумаць аб даязджаючым лекары-рэнтгенолагу. Прыклад гэты прывялі мы на тое, каб даказаць, на колькі непрадумана падрыхтавалі праграму актывізацыі. Непрадуманасць заключаецца ў тым, што, напрыклад, не прадбачана, што на арганізаванне некаторых прадпрыемстваў неабходна мець памяшканні, а заняцца іх пабудовай нельга. Чытаючы праграму, а потым папраўкі, неяк прыходзіць на думку, што гэта **нерэальны план,** а проста тое, што **трэба было б зрабіць.** Напэўна гэта спрашчэнне, але гэтай вострай фармуліроўкай хочацца падкрэсліць, што аўтары праграмы робяць крыўду сабе: пачаткова выходзяць да насельніцтва з шырокай праграмай, а потым з папраўкамі, дзе матывіруюць, што тое ці іншае прадпрыемства не зрэалізуецца. Гэта не прыносіць карысці нікому.

Аднак, праўдападобна, пасля апошніх паправак многія з гарадоў атрымаюць новыя прадпрыемствы. **Гарадок,** напрыклад, атрымае ў 1968 годзе металаапрацоўчае прадпрыемства за 6,3 мільёна зл., пякарню, а таксама памяшканне на завод газіраванай вады. **У Міхалове** коштам 700 тыс. зл. адаптуецца да 1968 г. памяшканне на швейны завод, дзе знойдзе працу 150 жанчын. Нельга не ўспомніць аб ужо рэалізаваных інвестыцыях, як напр.: філіялы ПОМ у Міхалове, Юхноўцу, Харошчы ці торфазаводзе ў Імшары к/Новай Волі, ці бойні трусоў у Васількове.

Адным са спосабаў актывізацыі павінна быць развіццё паслуг для насельніцтва. Можна гэта назваць не «адным», а асноўным. У многіх паветах такой установай, якая развівае паслугі для насельніцтва, ёсць ПЗГС. У многіх, але не ў Беластоцкім. Тут, напрыклад, у 1966 г. на агульную вартасць паслуг 14.276.000 на паслугі непасрэдна насельніцтву прыпадае толькі 3.800.000 зл. Некаторыя ГС-ы Беластоцкага павета на-

(Працяг са стар. 4)

## УВАГА!




**ужо павінен быць у продажы ва ўсіх аддзелах Беларускага Таварыства, у актыўных беларускіх гуртках, школах.**

**Цана Календара — 7 зл.**

**У Календары першы раз знаходзіцца тыднёвы календарыум у выглядзе спецыяльнага дадатка, які можна павесіць на сцяне. У ім указаны важнейшыя святы і гістарычныя даты.**

**Большасць «Беларускага Календара на 1968 год» прысвечана жыццёвым парадам, гаспадарчым, сямейным, касметычным, кулінарным, фінансавым.**

**Падрабязней аб Календары напішам у адным з наступных нумараў «Нівы».**

Паўзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### 50-ГОДДЗЕ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

Уся Савецкая краіна святкавала 50-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Цэнтральныя ўрачыстасці адбыліся ў Маскве і Ленінградзе. У Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў 3 лістапада адбылося сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета Саюза СССР, Вярхоўнага Савета РСФСР. З дакладам «50 гадоў Вялікіх Перамог сацыялізма» выступіў Генеральны сакратар КПСС Леанід Брэжнеў.

У пасяджэнні прынялі ўдзел партыйна-ўрадавыя дэлегацыі сацыялістычных краін, прадстаўнікі камуністычных і левасацыялістычных партый капіталістычных краін, партыйна-ўрадавыя дэлегацыі нацыянальна-дэмакратычных краін. Апрача Брэжнева на пасяджэнні з прамовамі выступілі: першы сакратар ПАРП Уладзіслаў Гамулка, першы сакратар Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі Вальтэр Ульбрыхт і генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі Вальдэк Рашэ.

У сваім дакладзе Леанід Брэжнеў перааналізаваў гераічны шлях сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, а затым даўжэй спыніўся на сучасных праблемах краіны саветаў, міжнароднай абстаноўкі і міжнароднага рабочага руху. Гаворачы аб справах рабочага руху Брэжнеў скрытыкаваў шавіністычны і вялікадзяржаўны курс групы Мао Цзэ-дуна, які наносіць вялікую шкоду пабудове сацыялізма ў Кітаі і рабочаму руху ва ўсім свеце. Брэжнеў выявіў надзею, што марксісцкія сілы ў Кітаі перамогуць сучасныя пераходныя цяжкасці ў сваёй краіне. Гаворачы аб амерыканскай агрэсіі ва В'етнаме Леанід Брэжнеў заявіў: «Мы дапамагаем і будзем дапамагаць барацьбітам супраць імперыялістычнага ўмяшання ў справы народа, ахвярам імперыялістычнай агрэсіі. Формы гэтай дапамогі могуць быць самыя розныя ў залежнасці ад акалічнасцей — палітычныя, дыпламатычныя, эканамічныя або ваенныя, — але змест заўсёды адзін: адпор агрэсара, абарона правоў народаў за незалежнае развіццё, абарона справы міру і бяспекі народаў, а тым самым абарона інтарэсаў сацыялізма». «Мы ўлічваем урокі мінулага, — заявіў далей Брэжнеў, — і робім усё, каб ніхто не застаў нас знянацку. Ну, а калі знойдуцца шаленцы, якія адважацца зрабіць замах на бяспеку Савецкай краіны, на нашых саюзнікаў, — савецкі народ не пахіснецца. Адкуль бы не ішоў такі замах — з поўначы ці з поўдня, з захаду ці ўсходу, агрэсара сустрэне ўсесакрушальная магутнасць нашых слаўных Узброеных Сіл. Ад гэтай магутнасці няма заслонаў, для яе няма адлегласцей. Няхай ведаюць усе, што ў бітве з любым агрэсарам Савецкая краіна атрымае перамогу, дастойную нашага вялікага народа, дастойную радзімы Кастрычніка!» (п)

## БССР

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

У сувязі з 50-годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускія газеты пішуць аб заканчэнні электрыфікацыі вёсак Беларусі. Галоўнае ўпраўленне энергетыкі і электрыфікацыі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР датэрмінова выканала план сельскай электрыфікацыі. Да Беларускай дзяржаўнай энергасістэмы падключаны ўсе калгасы, саўгасы і населеныя пункты, якія маюць дзесяць і больш дамоў.

У рэспубліцы пабудавана звыш 120 тысяч кіламетраў электрасетак сельскагаспадарчага прызначэння, больш як 25 тысяч трансфарматаравых падстанцый, электрыфікавана 1.220 тысяч жылых дамоў.

### СЕСІЯ

Гадавіне Рэвалюцыі прысвечана юбілейная сесія Акадэміі навук Беларускай ССР. Сесія заслухала некалькі дакладаў, у якіх быў асветлены паўвяковы шлях беларускага народа і яго дзяржавы, развіццё гаспадаркі і культуры.

Даклад **«Навука БССР за гады Савецкай улады»** меў прэзідэнт Беларускай акадэміі навук **У. Купрэвіч.** Ён падаў шэраг знамянальных лікаў: за савецкае паўстагоддзе на Беларусі створана 185 навуковых устаноў і 28 вышэйшых навучальных устаноў, а ў ліку іх супрацоўнікаў — 310 доктараў і звыш 3.600 кандыдатаў навук.

У складзе Акадэміі знаходзіцца 19 навукова - доследных інстытутаў, Батанічны сад, 9 самастойных аддзелаў і лабараторый, эксперыментальны завод.

### ОРДЭНЫ

Прэзідыум усесаюзнага Вярхоўнага Савета ўзнагародзіў ордэнам Леніна **Ілью Гурскага,** вядомага беларускага драматурга і **Максіма Танка,** выдатнага паэта. Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга ўзнагароджаны — **Іван Мележ,** празаік, і **Іван Шамякін** — аўтар папулярнай кніжкі «Сэрца на далоні».

Гэтыя высокія ўзнагароды беларускім пісьменнікам сведчаць аб росце прэстыжу і атракцыйнасці беларускай культуры ў Саюзе ССР.

### СЦЯГ

Калектыў перасовачнай механізаванай калоны № 19 трэста **«Гроднасельбуд»** узнагароджаны Памятным сцягам ЦК КПСС, Прэзідыума Вурхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Урачыстасць уручэння адбылася ў раённым Доме культуры ў Слоніме.

### УКАЗ

Апублікавана указ беларускага Вярхоўнага Савета аб прысваенні ганаровага звання заслужанага настаўніка Беларускай ССР 44 работнікам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

### «ВЯЧЭРНІ»...

Паявілася першая гарадская газета на беларускай мове — **«Вячэрні Мінск».** Гэта газетнае выданне тыпу папулярных «кур'ераў». (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### У ГОНАР ВЯЛІКАГА ЮБІЛЕЮ

З аказіі 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсёй краіне адбылося мноства рознага тыпу мерапрыемстваў, сустрэч з удзельнікамі рэвалюцыі, урачыстых сходаў і пасяджэнняў у паасобных прадпрыемствах і вёсках. Заданнем іх было паглыбленне ведаў аб генезісу рэвалюцыі, яго ўплыве на польскую справу і на форму сучаснага свету. Сотні прадпрыемстваў далажылі аб выкананні сваіх прадукцыйных абавязацельстваў, у сталіцы ўрачыста адкрыта «Дом савецкай тэхнікі», варшаўскія ветэраны рабочага руху сустрэліся з кіраўніцтвам сталічнай партыйнай арганізацыі, старшыня Галоўнага праўлення ТППР Чэслаў Выцэх уручыў залатыя ганаровыя адзначэнні за пашырэнне ведаў аб СССР кіраўніцтву Міністэрства культуры і мастацтва, у Паронін прыехаў спецыяльны цягнік з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, дэлегацыя жанчын сустрэлася з дзеячамі польскага жаночага руху.

Адначасова ў апошнія месяцы выдадзена ў Польшчы звыш 80 кніжных публікацый савецкіх аўтараў і пастаўлена на сцэнах звыш 30 савецкіх п'ес. З нагоды гадавіны рэвалюцыі выданы таксама новы вялікі польска-рускі слоўнік, які змяшчае каля 75 тысяч слоў.

### ТЭХНІКА

На працягу апошніх 20-ці гадоў Польшча атрымала ад Савецкага Саюза 6 тысяч камплектаў тэхнічнай дакументацыі, 8 тысяч нашых спецыялістаў адбыло ў Савецкім Саюзе практыку. Савецкі Саюз перадаказаў Польшчы 42 праекты інвестыцый і 294 камплектныя рысункі машын і абсталяванняў.

### ПАПЕРА

4 лістапада ў Свецю над Віслай урачыста перадказана ў эксплуатацыю І этап найбольшай у краіне фабрыкі цэлюлозы і паперы. Сабраныя ў час урачыстасці рабочыя прадпрыемства выслалі ліст да Уладзіслава Гамулкі, у якім інфармуюць яго аб выкананні датагачасных сваіх заданняў, а таксама аб гатоўнасці да далейшых намаганняў у пабудове наступных аддзелаў прадпрыемства.

### УМОВЫ ЖЫЦЦЯ НАСТАЎНІКАЎ

На пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў перадыскутавана праблему ўмоў жыцця нашых настаўнікаў, а перад усім памяшкальныя ўмовы настаўнікаў. Саюз настаўнікаў атрымаў ад Грамадскага фонду пабудовы сталіцы і краіны 500 мільёнаў злотых на пабудову памяшканняў для настаўнікаў на вёсцы і ў малых гарадах.

### «НОВІТ»

Так называюцца новыя вадкія плады, якія прадукуе мазавецкая фабрыка він у Варцы над Пiліцай. Новы прадукт прадавацца будзе ў слоіках, якія можна будзе распячатваць без страху, што прадукт сапсуецца. Змешаны з вадою «Новіт» дае прыемны напітак. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### У ГОНАР ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

Ва ўсім ваяводстве ў мінулым тыдні наладжваліся ўрачыстыя пасяджэнні прысвечаныя знамянальнаму юбілею — 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. На ваяводскай акадэміі, якая адбылася ў беластоцкім тэатры, з дакладам аб заваяваннях Кастрычніка і яго ўплыве на лёс Польшчы выступіў А. Лашэвіч.

Рабочыя ўсято ваяводства вялікі юбілей адзначылі каштоўнымі абавязацельствамі. Беластоцкія будаўнікі выпусцілі дадаткова тысячы кубічных метраў бетонных і жалеза-бетонных будаўляных элементаў. Дзякуючы гэтаму на 20 дзён перад устаноўленым тэрмінам маюць намер выканаць гадавы план. Кастрычніцкія абавязацельствы ўжо выканалі рабочыя Гайнаўскага драўлянага камбіната і рабочыя хімічнай фабрыкі ў Гайнаўцы. Першыя — на суму ў 4,5 мільёна злотых, другія — на 1,5 мільёна злотых. Рабочыя мазурскай тытунёвай фабрыкі ў Аўгустове абавязаліся павялічыць экспартную прадукцыю, а таксама палепшыць умовы працы ў сваім прадпрыемстве. Беластоцкія тэкстыльшчыкі з фабрыкі імя Сяржана ў час урачыстага пасяджэння, якое 5 лістапада адбылося ў беластоцкім тэатры, заявілі, што выканалі свае абавязацельствы на суму ў 3 мільёны 200 тысяч злотых, а беластоцкія гарбары — на суму ў 1 мільён 100 тысяч злотых.

Гэта толькі некаторыя, прыкладныя дадзеныя аб абавязацельствах, якімі грамадскасць Беласточчыны сустракала вялікі юбілей. Пад уражаннем 50-годдзя Савецкага Саюза праходзіла праца ў дамах культуры, клубах і святліцах. Адбываліся сустрэчы з рэдактарамі журнала «Край Рад» і прадстаўнікамі Савецкага пасольства. Больш 40 аматарскіх эстрадных калектываў з гэтай нагоды падрыхтавала спецыяльныя праграмы.

У юбілейным годзе асабліва моцна актывізаваліся міжзаводскія суседскія кантакты жыхараў Беласточчыны і Гродзенскай, Каўнаскай і Віленскай абласцей. Гэты абмен называюць ужо «аўтобусамі дружбы». «Аўтобусы дружбы» выязджалі ўжо амаль з усіх буйнейшых прадпрыемстваў Беласточчыны, а таксама падобныя «Аўтобусы дружбы» прыязджалі да гэтых прадпрыемстваў. У апошнім часе, для прыкладу, 100-асабовы самадзейны мастацкі калектыў з Ваўкавыска выступіў у беластоцкім тэатры.

Удзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, жыхары Беласточчыны, сустрэліся ў Ваяводскім камітэце ПАРП, а таксама на вечарыне ЗБОВіД. Найбольш заслужаныя сярод іх атрымалі запрашэнні на цэнтральныя ўрачыстасці ў Варшаву.

### ГРОДЗЕНСКІ ТЭАТР У БЕЛАСТОКУ

16 і 19 лістапада камедыя М. Каца і А. Ржэўскага «Алека Дундзіч»; 17 лістапада «Варвары» М. Горкага; 18 лістапада «Пасляшлюбнае падарожжа» В. Дыхавічнага.




**NIEDZIELA 12 LISTOPADA**

9.10 Pragram dnia. 9.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Pasze gospodarskie podstawą żywienia bydła'' cz. II. 9.50 ,,Przypominamy ,radzimy''. 10.00 ,,Bracia Wasilewowie'' — film fab. radz. 11.30 ,,Paryż śpiewa'' — film franc. 11.45 Dziennik. 11.55 ,,Zobaczmy raz jeszcze'' — film dok. franc. 12.45 ,,Sezam muzyczny''. 13.25 ,,Przemiany''. 13.55 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — ,,Okropny kłopot''. 14.35 ,,Pamiętna podróż'' — film (,,Bonanza''). 15.30 PKF. 15.40 ,,Z Juwenturem przez Bajkał'' — rep. film. 16.00 ,,Plebiscyt Archimedesa'' — program poświęcony 50 rocznicy Rewolucji Październikowej. 18.00 Sprawozdanie sportowe. 19.00 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Małżeństwo doskonałe'' — program rozrywkowy J. Gruzy i J. Fedorowicza. 21.05 ,,Najpiękniejsza kobieta świata'' — film fab. wł. 22.55 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 13 LISTOPADA**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.25 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Kino ,,Ptyś''. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.40 ,,Tramp''. 18.00 ,,Bukiniści'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 18.15 ,,Eureka''. 18.45 ,,Azymut''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Krassowski: ,,Układy — Sprawa z roku 1806''. Po Teatrze, ok. 21.35 ,,Klaps''. 22.05 Dziennik.

**WTOREK, 14 LISTOPADA**

9.05 ,,Jak to dziewczyna'' — film TV ang. 9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: ,,Żołnierz Samochwał'' — Plautus. 10.27 Przerwa. 11.00 Dla szkół (kl. IV) ,,Na Ziemi Kieleckiej''. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski: ,,O miejsce wśród ludzi'' — ,,Pierwsze sympatie''. 12.30 ,,Przysposobienie Rolnicze'' — ,,Trawienie i wchłanianie pokarmu''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Przysposobienie Rolnicze: — ,,Trawienie i wchłanianie pokarmu''. 15.45 i 22.25 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Nie tylko dla moli'' (program o książkach) odc. I. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Zapraszamy na wtorek wieczór'' — wizyta u J. Banacha. 17.55 ,,Nie tylko dla pań''. 18.15 ,,Mogło być inaczej'' (,,7 milionów młodych''). 18.30 Telewizyjny Kurier Warszawski''. 18.45 ,,Giełda piosenki'' — Giełda Giełd. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Gra Lew Oborin''. 21.00 ,,Szansa'' — program obyczajowy. 21.30 ,,Jak to dziewczyna'' — film TV ang. 22.20 Dziennik.

**SRODA, 15 LISTOPADA**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie: ,,Zwiedzamy PGR''. 10.30 ,,Człowiek, który lubił lwy'' — film TV (,,Święty''). 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: ,,O ładunku elektrycznym''. 12.25 Przerwa. 13.45 Sprawozdanie sportowe. 15.40 Program. 15.45 i 23.00 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Pan Półka i Spółka''. 17.20 Dla dzieci: ,,Bolek i Lolek na wakacjach'' — film. 17.30 ,,Telekram''. 17.40 PKF. 17.50 ,,Magazyn Medyczny''. 18.20 ,,Ośmiornice'' — film kanadyjski. 18.35 Film. 18.50 ,,Wielkie balety'' — program poświęcony wybitnym baletom rosyjskim i radzieckim. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Człowiek, który lubił lwy'' — film (,,Święty''). 20.55 ,,Światowid''. 21.25 Studio Współczesne: ,,Myśliwi'' — sztuka W. Terleckiego. 22.20 Dziennik. 22.35 Sprawozdanie sportowe.

**CZWARTEK, 16 LISTOPADA**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Język polski: ,,Spotkanie z Wandą Żółkiewską''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: ,,Sztuka polska w epoce Odrodzenia''. 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.45 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.05 ,,Gawędy wilków morskich''. 18.25 ,,Dnieprogos'' — z cyklu ,,Z kamerą po świecie''. 18.40 ,,Śpiewnik domowy'' St. Moniuszki. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 Film muzyczny. 20.20 ,,Towarzysze broni'' — film dok. 21.20 ,,Cyklon zaczyna się nocą'' — film fab. radz. 22.25 Dziennik.

**PIĄTEK, 17 LISTOPADA**

8.35 ,,Praski blues'' film fab. CSRS. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: ,,Czujniki w urządzeniach sygnalizujących''. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: ,,Rzeźba''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Pollitechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Zręczne ręce''. 17.15 ,,Raj zwirząt'' ,,Wielka przygoda'' — film. 17.40 ,,Człowiek i ziemia'' — program Red. Wiejskiej. 18.05 Telewizyjny Kurier Mazowiecki. 18.20 Magazyn ,,Dialogi historyczne''. 18.55 ,,Wielokropek''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Nowa — nie znaczy inna'' — program dokumentalny. 20.30 Teatr TV: ,,Murzyn'' J. Szaniawskiego. 21.40 ,,10 minut recenzji''. 21.50 ,,Poezja dnia ósmego''. 22.20 Dziennik.

**SOBOTA, 18 LISTOPADA**

9.20 ,,Ruda Julka'' — film fab. fr. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: ,,Od śniadania do kolacji''. 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: ,,Nowy York''. 13.15 Przerwa. 15.45 Program dnia. 15.50 TV Kurs Rolniczy: ,,Opas bydła na paszach odpadowych''. 16.25 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.35 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: ,,Konkurs pięciu milionów''. 18.05 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.30 ,,Kino Filmów Amatorskich''. 19.00 ,,Gawędy o współczesności'' — przed kamerą prof. dr K. Grzybowski. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 Sprawozdanie sportowe. 21.10 ,,Almanach'' — magazyn kulturalny. 21.40 ,,Piosenki i tańce naszych przyjaciół'' — program rozrywkowy. 22.30 Dziennik. 22.45 ,,Ruda Julka'' — film fab. fr.




**PIĄTEK, 10 LISTOPADA**

14.25 Program dnia. 14.30 Język ang. dla przedszkolaków. 14.50 ,,Słuchaj nas, Ojczyzno!''. 15.05 Film TV. 15.40 W eterze ,,Młodość'' 16.00 Kronika pięciolatki. 16.30 Dziennik. 16.50 TV film muzyczny. 18.00 ,,Sztafeta nowin''. 19.00 ,,Ballada o komisarzu''. Film TV. 20.20 ,,Miłość moja, Rosja''. Program literacki.

**SOBOTA, 11 LISTOPADA**

8.00 Gimnastyka. 8.30 Język ang. dla przedszkolaków. 9.00 Dla uczniów szkół technicznych: ,,Detale maszyn'', ,,Teoretyczna mechanika''. 11.55 Program dnia. 12.00 Program telewizji barwnej. 13.30 Dziennik. 14.30 Koncert Uralskiego chóru ludowego. 15.00 Klub Filmowy. 16.00 Program cyrkowy. 17.00 ,,Major Wicher''. Film TV. III seria. 18.30 Dziennik. 19.30 Teatr Wachtangowa.

**NIEDZIELA, 12 LISTOPADA**

7.55 Program dnia. 8.00 ,,Budzik''. 8.30 Koncert dla uczniów. 9.00 ,,Białe i czarne''. 9.30 Dla dzieci. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Program telewizji barwnej. 13.00 Mecz hokejowy. ,,Spartak'' (Moskwa) — ,,Dynamo'' (Moskwa). 15.30 ,,Kiosk muzyczny''. 16.40 ,,Lenin w 1918 roku''. Film. 18.30 Dziennik. 19.00 ,,Spotkania wieczorne''. 20.00 ,,Dzień poezji 1967''. Almanach literacki.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 107

# АБ ПЕРШЫМ ПЕРАКЛАДЧЫКУ „ПАНА ТАДЭВУША" НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**(У 160-ГОДДЗЕ НАРАДЖЭННЯ ВІКЕНЦІЯ ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА, 1807—1967)**

У трэцім падзеле Польшчы, які пацягнуў за сабою астатковы падзел польскіх земляў паміж трох захопніцкіх дзяржаў, Расія ўключыла ўсходнія правінцыі Рэчыпаспалітай, на якіх пражывалі галоўным чынам украінцы, беларусы і літоўцы. Далучэнне Беларусі да Расіі пры канцы XVIII стагоддзя прыблізіла беларускі народ да вялікай рускай культуры, што мела агромны ўплыў на ўтварэнне з пачаткам XIX ст. новай беларускай літаратуры. Міма фактычнай палітыкі царызму (закрыццё Віленскага універсітэта і г.д.), беларуская літаратура знайшла дапамогу ў рускім рэвалюцыйным руху і дэмакратычнай культуры. Трэба памятаць, што царскі ўрад схільны быў трактаваць кожную спробу паўстання беларускага пісьменніцтва як «польскую інтрыгу». З крыніц крытычнага рэалізму, асноўнага метаду дэмакратычнай беларускай літаратуры XIX стагоддзя, выводзяцца ананімныя парадыйна-сатырычныя ўтворы гэтай літаратуры: «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».

Нарыс гісторыі літаратуры беларускай не з'яўляецца аднак тэмай гэтага кароткага артыкула. Дзіўным з'яўляецца тое, што праходзіць амаль без рэха 160-годдзе нараджэння вялікага прадстаўніка ліберальна-шляхецкай беларускай літаратуры, Вікенція Дуніна-Марцінкевіча (1807—1884), першага перакладчыка «Пана Тадэвуша» на беларускую мову, якое прыпадае іменна ў гэтым годзе. Гэты артыкул хоча часткова дапоўніць гэты недахоп.

Дунін-Марцінкевіч уваходзіць у беларускую літаратуру ў пачатку саракавых гадоў мінулага стагоддзя, калі феадальны прыгнёт самадзяржаўнай Расіі, пасля дасягнення сваёй вышыні, перажываў гады заняпаду. Да голасу даходзілі новыя прадукцыйныя сілы, наступала эпоха вострай класавай барацьбы старога з новым. Рэалістычныя элементы творчасці Дуніна-Марцінкевіча заслугоўваюць на іх выдабыццё і падкрэсленне, паколькі бясспрэчна ўздзейнічалі на маладое пакаленне беларускіх літаратараў XIX стагоддзя. Выступае ён зрэшты як літаратар прафесіянал на ніве, разрыхленай яго папярэднікамі; літаратура стаецца для яго жыццёваю неабходнасцю.

Пісьменнік, які нарадзіўся ў 1807 годзе (больш дакладнай даты не падаюць ані нашыя біёграфы Дуніна, Юзэф Галомбэк ці Аляксандр Ельскі, ані аўтар манаграфіі на беларускай мове, Сцяпан Майхровіч) паходзіў з дробнай беларускай шляхты. Бацька яго быў арандатарам фальварка Панюшкевічы ля Бабруйска. У 1824 годзе Дунін-Марцінкевіч паступіў на медыцынскі факультэт Пецярбургскага універсітэта. Бурнае жыццё «Пальміры поўначы» зрабіла вялікі ўплыў на інтэлект маладога чалавека, які пакідае ў 1827 годзе ўніверсітэт і да 1839 года блукаецца як служачы па розных установах, м. ін. служачы кансісторыі ў Мінску, дзе перакладае ўсялякія дакументы з польскай мовы на рускую. У 1839 годзе набывае невялікі маёнтак пад Мінскам, Люцынку, дзе — з невялікімі перапынкамі — дажывае да канца сваіх дзён.

Ад 1846 года пісьменнік праяўляе ажыўленую літаратурную дзейнасць: выдае ў Вільнюсе оперу ў двух актах «Сялянка», твор «Гапон» (1855), «Вечарніцы» і «Заваражаны» (1855), тры апавяданні для дзяцей п.з. «Цікавішся? Прачытай!» (1856). У Мінску, роўна сто дзесяць гадоў таму, выдае «Дудар беларускі ці ўсяго патроху» і «Верш Наума Прыгаворкі». У 1866 годзе піша па-польску камедыю «Пінская шляхта». У 1918 годзе выдадзена ў Мінску (з рукапіснай спадчыны) камедыю, напісаную па-польску і беларуску «Залёты».

Некалькі слоў аб творы «Верш Наума Прыгаворкі». У Мінску, да якога паэт часта заглядаў, стварылася польскае мастацкае асяроддзе з паэтам Адамам Пянкевічам, жывапісцам Адамам Шэмэшам і скрыпачом Ігнацым Кшыжаноўскім на чале. Калі ў 1856 г. былі ў Мінску Уладзіслаў Сыракомля, Станіслаў Манюшка і музыка Антон Контскі, Дунін-Марцінкевіч, будучы там жа, частаваў іх гасцінна. «Верш Наума Прыгаворкі» з'яўляецца іменна аказаннем пашаны Манюшцы і Контскаму паэтам.

«Асаблівае аднак значэнне ў развіцці літаратурнай дзейнасці мае знаёмства з Сыракомляю. Аб іх сардэчных адносінах сведчыць верш Сыракомлі, прысвечаны Марцінкевічу.

„Szczęśliwy, kogo wianek bratnich serc otoczy,
Jak mnie dzisiaj, przychodnia u brzegów Swisłoczy,
Wpośród was przepędzone błogosławię chwile,
Za kilka marnych pieśni mam bratnich serc tyle!
Dziś zaciągam powinność względem was, swojacy,
Do gorętszej miłości i gorętszej pracy.
O, bogdajbym ją ziścił i w godnej postaci
Mógł czynem podziękować mej litewskiej braci;
Bo dzisiaj przy tym stole, serdeczny Naumie,
Serce moje zaledwie rozrzewnić się umie,
Pierś zaledwie na słabe zdobędzie się tony:
Niech żyje nasza Litwa i mój Mińsk rodzony."

Неаднаразова таксама Сыракомля словам і прыхільнымі рэцэнзіямі заахвочвае яго да вытрымання на выбранай дарозе — тварэння па-беларуску» (Юзэф Галомбэк: Вікенцій Дунін-Марцінкевіч, паэт літоўска-беларускі. Вільня, 1932, стар. 34—35).

У момант пачатку агітацыі да студзеньскага паўстання паэт браў актыўны ўдзел у гэтым руху. Арыштавалі яго ў 1863 годзе пад закідам, што з'яўляецца шкодным для рускай дзяржавы, а таксама як уяўнага рэдактара газеты «Мужыцкая праўда». Пасля дзесяцімесячных прыдзірак звольнілі яго з турмы не могучы нічога даказаць.

1859 год з'яўляецца цяжкім ударам для паэта: канфіскавана яму аддадзены ў друк у Вільнюсе пераклад «Пана Тадэвуша». Было гэта ўласна кажучы заканчэннем шматгадовай літаратурнай працы паэта. Далейшая творчасць засталася ў рукапісах, з якіх частка згарэла. Выдаўцы дзвюх першых кніг «Пана Тадэвуша» пішуць аб гэтым са спачуваннем ва ўступе («Пан Тадэвуш», выд. «Беларускія песняры» т. II, Пецярбург, 1907, стар. 1). Ад гэтага ж 1859 года ў межах рускай імперыі праз доўгія гады не выйдзе з друку ніводная беларуская кніга.

Паэту закідалі, што піша на «мове простанароддзя», на якой не чытаюць «адукаваныя сферы». Аддайма голас самому Марцінкевічу, які на старонках «Газеты штодзённай» («Польскай»), якую рэдагаваў І. Крашэўскі, так вось распраўляецца з гэтым «закідам» (1861, № 111):

„Żyjąc wśród ludu, mówiącego białoruskim narzeczem, wcielony w jego sposób myślenia, marząc o doli tego szczepu bratniego, w niemowlęctwie i ciemnocie odrętwiałego, postanowiłem, dla zachęty go do oświaty, w duchu jego zwyczajów, podań i zdolności umysłowych, pisać we własnym jego narzeczu; jakoż ze zdumieniem dostrzegłem wkrótce, że wydaną przezemnie Sielankę, dalej Hapona, Wieczornice, Dudarza, Kupałę itd. lud z największym przyjął upodobaniem a młodzież z zapałem poczęła się uczyć czytać i na pamięć mowie, tak dla niej miłe, powtarzać utwory. Skutkiem czego upowszechnia się już dzisiaj w części nad Wilią i Niemnem, nad Swisłoczą, Berezyną, Dźwiną, Dnieprem itd. czytanie pisma białoruskiego, a obudzona chęć i zapał do karmi umysłowej znajdzie sobie obfite materiały w ojczystej już mowie.

Ten mój pomysł i dążność, pojęte i ocenione zostały w Królestwie, nie pojętymi na Litwie, jakoż na zgromadzeniu literackim u pana K... posłyszałem zdanie: „że pisząc w białoruskiem narzeczu między ludem wieśniaczym prowincjonalizm szczepię", na co zmuszony jestem odrzec:

Nieszczęsna przeszłość nasza doprowadziła lud wieśniaczy do upadku, nie myśląc zgoła o umysłowem i moralnem wykształceniu jego, chociażby przez pamięć, że to dzieci jednej matki, że to upośledzeni bracia i chrześcijanie, mający prawo do wiedzy, jak do niebieskiego chleba.

Jeżeli żaden organ polski nie potrafił, mimo usiłowań przez wiek niemal cały, dźwignąć tego ludu, czyliż dziwić się należy? Mógłżeli jaki bądź organ trafić do ucha, do przekonania kmiotka, któremu środki nauczania się polskiej mowy tak były utrudzone, który krwawym oblewając potem łany swych panów, nie miał czasu do zajęcia się umysłowego? Jeżeli czasem dźwięk matczynego narzecza obił się o spragnione ucho biedaka, był to potok groźb i łajań, wyrzeczonych do pogardzanej sieroty.

Otóż, postrzegając zgubne usiłowania do zniecnęcenia od nas ludu, postanowiłem przez pisma w narzeczu jego, odpowiednie pojęciom, będące jeszcze w kolebce i ułatwiając mu sposoby oswojenia się z naszą literaturą, zachęcić go niejako do oświaty i moralnie poprawić. Jak zbawienny te pisma wpływ nań wywarły i ztąd wnosić należy, że dzisiaj książki w narzeczu ludowym już się zupełnie wyczerpały, a nowe się nie drukują.

Czas jeszcze, żeby się obywatele nasi spostrzegli, a przez zakładanie szkółek, domów ochron i inne możebne ofiary starali się tę młodszą bracię swoją, umiejącą być wdzięczną, przygarnąć do serca i dla zobopólnego dobra ściśle się z nią zespolili".

Naum Pryhaworka

Калі ідзе пра сувязь Дуніна-Марцінкевіча з польскай літаратурай, а асабліва з Міцкевічам, трэба прыгледзецца коратка яго перакладу «Пана Тадэвуша». Аналіз творчасці беларускага паэта даказвае бясспрэчна на вялікі ўплыў Міцкевіча на Марцінкевіча, які прайшоў складаны шлях ад нясмелага перайманна да творчай практыкі ў нашага народнага песняра. Перакладчык «Пана Тадэвуша», міма невялікага аб'ёму слоў, адпаведнага да агранічанага паняцця народа (літаратурнай беларускай мовы не было!), падняўся надзвычай цяжкага задання, ахвяроўваючы свайго «Пана Тадэвуша», «прыбранага ў мужыцкую сярмягу панам і простаму народу з-над Дняпра, Дзвіны, Бярэзіны, Свіслачы, Віліі і Нёмана». Галомбэк гаворыць: «Перакладчык тварыў проста на польскі ўзор беларускую лексіку, асабліва калі ішло пра словы невядомыя і неўжываныя народам. У гэтым вялікая заслуга Марцінкевіча» (стар. 89). І міма пэўных літаратурных спатыкненняў («моўная абыдзёншчына» і ўбоства стылю), трэба памятаць, што пераклад Марцінкевіча з'яўляецца наогул першым перакладам «Пана Тадэвуша» на славянскія мовы і то адносна вельмі раннім.

На тэму нацыянальнасці Марцінкевіча напісана ўжо многа. Сёння не падлягае сумненню, што паэт быў па-паходжанню беларусам, які любіў да экстазу люд беларускі, выражаючы істотны змест яго паэзіі. Палякі былі для яго «пабрацімскім народам, з якім цесны саюз прызнаваў, але з якім безумоўна не зліваўся». (Галомбэк, стар. 114).

Пісьменнік, які даў беларускаму народу ўласную народную літаратуру, які першы друкаваў кнігі на беларускай мове, дакументуючы такім чынам, што беларусы не вымушаны з'яўляцца часткаю вялікарускага народа, бо маюць ўжо ўласную пісьменнасць, заслугоўвае на памяць і пашану таксама з боку польскага грамадства за сувязі з нашай літаратурай, а перш за ўсё за пераклад «Пана Тадэвуша».

**АНДЖЭЙ ЦЭСАЖ**

**Да 50 гадавіны літаратурнай і публіцыстычнай дзейнасці**

## Панцеляймон Васільевіч Юр'еў

У цяперашні час намеснік старшыні Галоўнага праўлення Рускага культурнага таварыства ў Народнай Польшчы, рэдактар выдавецтва «Русский голос». Сваю літаратурную і публіцыстычную дзейнасць пачаў у 1917 годзе выдавецтвам часопіса «Мир юности». У міжваенныя гады быў рэдактарам рускіх меншасных органаў у Польшчы, у тым ліку газеты «Русский голос», штодзённай газеты «Утро», штотыднёвіка «Слово» і цэлага рода іншых выданняў. Супрацоўнічаў са шматлікімі прагрэсіўнымі органамі рускай заграніцы. Выдаў некалькі раманаў, збораў вершаў, навуковых прац па рускаму і украінскаму фальклору. Займаўся пытаннем гісторыі першадрукаваных кніг на Русі. Друкаваўся таксама на замежных мовах. У пасляваенныя гады — адзін з узначальнікаў рускага меншаснага руху ў ПНР, галоўны рэдактар «Русского голоса», рэдактар часопіса «Звено», бюлетэняў РКПО і РКО. Многа займаўся гісторыяй кінематаграфіі, — у прыватнасці ўзаемаадносінамі кінематаграфістаў Польшчы і Расіі. Працуе над гісторыяй рускай прэсы ў Польшчы. Заканчвае вялікі гістарычны раман прысвечаны першадрукару кракаўскаму Фіоле, і працуе над аповесцю «Кавалер дзеравянага крыжа».

Шматлікія артыкулы друкаваліся ў апошні час на польскай, рускай, нямецкай, французскай, беларускай, украінскай, грэчаскай, балгарскай і яўрэйскай мовах.

З паасобных публікацый — у друку паказаліся ў апошні час зборнік вершаў і брашур прысвечаныя першадрукарам Фіоле і Скарыне. Шэраг артыкулаў на розныя тэмы друкаваліся таксама і на старонках савецкага друку.

## АЛЕСЬ БАРСКІ

Белавежа — анёлаў гурт,
аб'яднанне манахаў зялёных,
сход рымскіх калонаў,
лёгкакрылае зборышча муз.
кожны клён як віновы туз,
кожны дуб як суровы бог,
елка кожная нібы посах.
ў кожнай кроне канцэртны зал,
ў кожнай зале звінячы хор,
на галінах сто партытур.
у ляшчынах тысяча ціш,
у асінах тысяча бур,
у далінах тысяча згод,
і столькі ж нязгод — авантур.
стаіць задуменна бор
ад чорнай зямлі да звінечых зор,
мысліць.
калі тваё сэрца пустое паэт,
калі хтосьці кажа што ты ўжо памёр,
прыходзь ты ў пушчу маёвым раннем,
з-пад дрэў назбіраеш нападаўшых зор
і зноў у рады паэтычныя станеш.



Часалі коні свае грывы
шчоткамі высокіх траў,
хвастамі падпіралі сонца,
лавілі вецер зонтамі вушэй,
і калі сэрца пранікала зелень,
і храпы на пергаміне лугоў
пісаць больш вершаў
не хацелі,
зрываліся да лёту
нібы птахі,
імчалі над уздыбленай далінай,
ставаліся багамі на хвіліну.



**Зацыравала рунь загоны**
сіняй істужкай і зялёнай,
і першы ліст пачырванелы
кульгаючы пабег ад дрэва.
рабіна на мяжы крывавіць,
вецер нясмела загалосіць,
канае ў полі лета слава,
і пераможна крочыць восень,
і заяц выляцеў з дубровы
як моль у руні дзірку выеў.
ходзіць паэт, збірае словы
збірае фарбы, барвы, плямы,
для паэтычнае стыхіі.
тканіну руні і праменні,
і ловіць жураўліны лямант
ды заціскае ўсё ў жмені.
ўсё, усё для шчырай песні
якую людзям уваскрэсіць,
а для сябе дзесь на ўзлессі
абняў паэт за шыю восень.



Думка як Ікар крылаты
узляцела на момант
да сонца,
напілася праменняў
і п'яная шчасцем адчаю
рынула ў прорву бяздоння.
не шкадуйце
загінуўшай думкі,
не асуджайце
шаленства адчаю.
яна піла праз хвіліну,
трымала ў далонях
і вуснах
сонца.

 

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ

### МАЯ НАСТАЎНІЦА

Я не забуду ніколі
Сшыткі, пеналы, буквар,
Першыя радасці ў школе,
Першай настаўніцы твар.

Я не забуду ніколі
Рукі яе, што вялі
Нас, як па роднаму полі,
Па неабсяжнай зямлі.

Рукі яе, што адкрылі
Сцежкі да горных вяршынь,
Нас, як магутныя крылы,
Неслі да зорных вышынь.

Я не забуду ніколі
Ясных і добрых вачэй.
Можа, ад іх наваколле
Стала шырэй і ярчэй.

Першай настаўніцы словы,
Дзе мне ні здарыцца быць,
Так, як і матчыну мову,
Нельга ніколі забыць.

Сяргей Грахоўскі

1. За што мы цэнім і любім сваіх настаўнікаў?
2. Растлумачце сэнс апошняй страфы.
3. Напішыце сачыненне на тэму: «Мой любімы настаўнік».

**Біяграфічная даведка**

Сяргей Грахоўскі. — Сучасны беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1913 годзе ў беднай сялянскай сям'і. Піша для дзяцей. Аўтар зборніка вершаў **«Дзень нараджэння»**.



## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

### ШТО НОВАГА?

Як мы ўжо гаварылі, перадавымі ў конкурсе з'яўляюцца чытачы з паветаў Бельскага і Гайнаўскага. Але ўвосень актывізаваўся і Беластоцкі павет. Міхалова, Новая Воля, Фасты — тут знайшлося нямала цікавых удзельнікаў конкурсу.

### З БЕЛЬСКА

У двух партыях Павятовая бібліятэка ў Бельску прыслала ў кастрычніку новыя купоны на конкурс: 30 і 56 штук. Яны з Грамадскіх бібліятэк: Рыбалы — 35, Пількі — 14, Храбалы — 5, Галады — 12, Плёскі — 20.

### З ГАЙНАЎКІ

З Гайнаўскай Павятовай бібліятэкі атрымалі мы 38 купонаў, якія перасылае Грамадская бібліятэка ў Дубічах Паркоўных.

**Хто што сказаў**

**РАІСА ГРЫГАРУК**, Бельск, Педагагічны ліцэй, вучаніца, 18 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Купала «Бандароўна»**
**М. Лынькоў «Васількі»**
**Я. Колас «На ростанях»**

«Тэма твораў розная, але ўсе яны гавораць аб кімсьці, хто з'яўляецца нештодзённым чалавекам. Гераіня Купалы Бандароўна не хацела пакарыцца пану Патоцкаму і ў адказ на яго заляты з'ехала яго па твары. Герой «Васількоў», Міколка, помсціў адважна смерць маці і сястры. А Лабановіч быў выдатным настаўнікам. Гэтыя людзі, зусім розныя, маюць адно супольнае: смеласць. Іх лёсы апісаны вельмі цікава, і таму чытаюцца гэтыя кніжкі адным цягам. Вельмі цяжка пакінуць чытаць іх, але затое лёгка да іх вяртацца, каб разам з героямі — кніжнымі сябрамі вандраваць шляхамі іх жыцця».

**ІРЫНА ШЫМЧУК**, Бельск, Педагагічны ліцэй, вучаніца, 18 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Колас «Новая зямля»**
**М. Лынькоў «Васількі»**
**Я. Колас «На ростанях»**

«Выбраныя творы падабаліся мне таму, што ў іх аўтар паказаў ўсебакова быт і псіхалогію беларускага народа, яго звычаі і абычаі».

**ОЛЬГА ПАШКА**, Бельск, Педагагічны ліцэй, вучаніца, 17 год.

**ПРАЧЫТАЛА:**
**Я. Колас «Новая зямля»**
**Я. Колас «У палескай глушы»**
**М. Лынькоў «Васількі»**

«Люблю творы Я. Коласа таму, што гэта творы аўтабіяграфічныя. З іх можна дакладна пазнаць асяроддзе, у якім выхоўваўся і працаваў паэт. Творы Коласа проста і шчыра прадстаўляюць жыццё ў глухім палескім куточку. Выразна насвятляе ў іх аўтар стан асветы на вёсцы».

(Працяг са стар. 1)

## Крутыя сцежкі актывізацыі

ставіліся на паслугі для грамадскай гаспадаркі, што з'яўляецца вельмі рэнтабельным, даходным. Такую практыку прынялі кавальска-слесарскія заводы **ГС-аў Чорнай Беластоцкай і Лявіцкіх, якія, замест паслуг людзям, прадукуюць прылады для крамаў і гэта не толькі сваіх, але і для горада Беластока.** Падобна паступае Спулдзельня інвалідаў глухіх у Новасёлках, якая на 357.000 зл. паслуг непасрэдна для людзей выканала на суму ўсяго 3.800 зл.

Ёсць і іншыя прыклады. Некаторым прадпрыемствам так добра ў Беластоку, што вельмі цяжка іх заангажаваць на тэрыторыі павета. Сваёй упартасцю, напрыклад, адзначаецца Павятовая спулдзельня «Услуга». У 1966 годзе згодна з праграмай мела яна пабудаваць павільён у Міхалове, па сённяшні дзень нічога не зрабіла. Прычына? Бароніцца перад заангажаваннем сваёй працы на тэрыторыі павета.

І зноў трэба адклікацца да вострых фармуліровак. Вышэй сказанае сведчыць аб тым, што некаторых кіраўнікоў ці дырэктараў ахапіла выгадніцтва, прэмія і залішняя рэнтабельнасць. Здаецца, што хтосьці павінен гэтым людзям паказаць адпаведную дарогу сацыялістычнага развіцця гаспадаркі.

**А. Карпюк**




### МАСТАЦКІ ПЛАКАТ

У гонар 50 гадавіны Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку арганізаваў выстаўку мастацкага плаката. 30 прац з розных гадоў і розных аўтараў — найлепшых, прысвечаны рэвалюцыйнай тэме, Леніну, дружбе. Бачым тут цікавы плакат з дзён беларускай культуры ў Польшчы 1961 года, якая адбылася ад 14 да 22 кастрычніка. Аўтар плаката — варшаўскі мастак Юркевіч.

### XIV ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС

Аб штогод арганізаваным дэкламатарскім конкурсе пачынаецца размова. Нарэшце! Размова аб ім наогул цяпер крытычная: ці здае экзамен, ці на ўласцівай ён дарозе. Праўда, што з года штогод некалькі дзесяткаў асоб згарнее велізарныя грашовыя ўзнагароды. Але ці можна гэтым цешыцца?

Конкурс жа мае развіваць любоў да паэзіі, увогуле мастацкай літаратуры, сярод вельмі шырокіх кругоў людзей. Пэўна, шырокія кругі людзей чытаць паэзіі не ўмеюць, не любяць. Таму, хоць маем XIV конкурс, цешыцца няма чым. 14 год існавання ўстаноў конкурсу нямнога змянілі сярод шырокіх кругоў людзей. Група гарадскіх бярэ грошы. А я пытаю, ці гэта мае быць масавасць конкурсу? Тым больш, што і гэтыя, якія ўзнагароды бяруць, з'яўляюцца школьнікамі ліцэяў. А школы ж маюць уласныя дэкламатарскія конкурсы. Конкурс, аб якім мова, павінен ахапіць людзей, моладзь і не моладзь пазашкольную, вясковую, рабочую. Не надта гэта атрымоўваецца.

Многа ў такім сэнсе гаварылася на ваяводскім камітэце XIV конкурсу ў Ваяводскім доме культуры ў Беластоку. Найбольшы націск кладзецца цяпер на агляды, ці як па-новаму кажам турнеі, у асяроддзях, г.зн. на тым першым этапе. Турнеі павятовыя, а тым больш ваяводскія менш важныя. У вёсках, фабрыках паказаць прыгажосць верша. Узнагарода? Добрая! Але найбольшую ўзнагароду дае нам сама паэзія. А яе пазнанню мае служыць дэкламатарскі конкурс. Па-мойму, калі не зусім ліквідаваць, то на крайнія меры абмежаваць трэба ўзнагароды з тысячных да дзесятка сімвалічных злотых. Няхай бяздумная пагоня за ўзнагародай не прысланяе ўласцівай мэты конкурсу, шырокага і карыснага расчытання ў літаратуры.

вл.




(Працяг са стар. 1)

**чыць, што грамадскі рух каб добра развівацца, патрабуе людзей высока адукаваных.**

— Так, вельмі добра. Але таксама карысную дзейнасць могуць развіваць і людзі, якія проста жывуць традыцыяй, любяць збіраць, шукаць, думаць. Што патрэбнае, каб вырасла і развівалася рэгіянальнае таварыства? Група 5-ці асоб, якія маюць жывыя сардэчныя адносіны да культуры. Яны пацягнуць іншых. Вельмі важна, каб знайшоўся адзін, двух энтузіястаў у асяроддзі.

**— Вы, як бачу, энтузіяст народнасці і традыцыі. Гэта важнейшае, чым сучаснасць?**

— Сучаснасць, але ж так! І сучаснасць! Вельмі нам залежыць на ёй! Але не пападаць у крайнасць! Усё ўмела спалучаць у каляровую цэласць!

**— З нашым беластоцкім народным мастацтвам дзеецца не весела. Выдаецца часта, што кожнае іншае ваяводства ў Польшчы багацейшае ў гэтым. Яны ўмеюць больш рэкламавацца?**

— У нас багатае народнае мастацтва. Вельмі разнароднае. Але, праўда, яшчэ не адкрытае, не выдабытае. Такая вось нядаўняя выстаўка птушачак з дрэва аднаго народнага творцы завандравала і выклікала зацікаўленне аж у Лондане. А ў нас, як доўга гэты творца сядзеў сабе ціха на вёсцы і доўб свае птушкі. Мы робім поўныя арганізацыйныя магчымасці, каб вышукваць творцаў, сабраць іх, ведаць, каб у сарганізаванай акцыі заняцца народным мастацтвам.

**— Цяпер лепш, але быў час, многа шумелі на тэму клубаў. Ваша меркаванне?**

— У нас, дзе не маем аж у 12 паветах дамоў культуры, клуб — рэч карысная. У рамках комплекснага мадэлю, якім з'яўляецца грамадскі пункт культуры, клуб мае свае ўгрунтаванае і важнае месца.

**— Найбольш у клубах не падабаецца некаторым тое, што вядзецца гандаль.**

— Не маюць тыя людзі рацыі. Такі гандаль служыць культуры. Уплывае на рост культуры жыцця. І паста да зубоў гэтаму патрэбная.

**— А святліцы?**

— Гэта форма, якая аджывае век. Але, калі ёсць у вёсцы і святліца, і клуб, то яны дасканала могуць разам працаваць. У святліцы можна, напрыклад, арганізаваць гурток танца, у клубе — больш камеральная праца — тая кава, газета, спакой. Адно другое добра дапаўняе.

**— Чым можам хваліцца, то чытальніцтва...**

— Так. І да 70 года хочам заняць у яго развіцці першае месца ў краіне. Новыя пункты, папулярызацыя, умелыя пакупкі...

**— Але грошай на кніжкі мала.**

— Я б так не сказаў. Ёсць паветы, якія не шкадуюць на гэта.

**— Прашу прыклады.**

— Гэта Ломжа, Замбраў, Бельск. Прэзідыум ВРН дало нам у гэтым годзе агромадную суму.

**— Зусім новая наша традыцыя — гэта мастацкія пленэры ў Белавежы.**

— Ужо думаем аб IV. Хочам яго зрабіць міжнародным. Важна, што фармуецца свая ідэя Белавежскага пленэру.

**— Якая?**

— Каб у перспектыве давесці да пашырэння пейзажнага мастацтва. Белавежа для гэтага добра служыць. Другое — гэта стварэнне ўласнай галерэі пейзажнага мастацтва, і ў далейшым, хто ведае, уласнай, беластоцкай ці белавежскай мастацкай школы.

**— Вельмі жадаю, каб гэтак сталася! Дзякую!**

Размову вяла
**Вера Леўчук**

# ПАКРОВА — АСЕННЯЕ СВЯТА

Пакрова — асенняе, вясёлае свята. Сяляне паспелі ўжо пасеяць азіміну і выкапаць бульбу. Дык шчыра могуць выяўляць сваю радасць, што лета прайшло шчасліва, што клуні і свірны зноў запоўнены багаццем.

Кожны гаспадар, як правіла, з гэтай нагоды рэжа тлустага барана, а гаспадыня рубае гуся, і запрашаюць далёкіх і блізкіх сваякоў. Пачынаецца агульная гульня.

На Пакрову прыязджаюць кавалеры з усіх навакольных вёсак. Гарманіст іграе полькі, вальсы, абэркі, факстроты, танга, яго памочнік падае такт на барабане. Недзе пад поўнач у мелодыю танцаў урэзваецца нахабная ругатня, крык мужчын і жаночы віск. Вядома тады, што пачалася бойка, амаль заўсёды мокрая, крывавая — вёска на вёску або адзін на аднаго.

Такі вобраз Пакровы з даўных-даўна астаўся ў маёй памяці.

Апошнім часам нейкіх 5—6 год не быў я на Пакрову ў сваёй роднай вёсцы. Паехаў тады 14 кастрычніка г.г. Быў ужо цёмны вечар, калі ўвайшоў я ў вёску. У той час вясковая вуліца калісьці грымела ад песняў, поўна на ёй было моладзі і старэйшых. На гэты раз, на маё здзіўленне, было тут ціха. Са святліцы плыла мелодыя «лец-кіс» і іншых модных танцаў. Іграў ужо не адзін гарманіст, а цэлы аркестр. У танцавальным кругу хлопцы з доўгімі валасамі на моду англійскіх «бітлесаў», дзяўчаты ў кароткіх сукенках. Не відаць было п'яных, не чуваць задушэўнага, па-п'янаму шчырага спявання, ды і абстаноўка ў святліцы не спрыяла прастадушнаму, грубаму выяўленню сваіх пачуццяў. Чыста тут, яркае адмысловае электрычнае асвятленне, на сценах шматколерная мастацкая штукатурка, за прылаўкам — буфет. Па вопратцы і па паводзінах цяжка адрозніць, хто тут з горада, а хто з вёскі. Толькі старэйшыя цёткі-кумачкі па-ранейшаму ціснуцца пад сценамі, вартуючы сваіх дочак і сынкоў, любуючы свае вочы іх маладосцю.

Стала мне неяк сумна за ранейшай непасрэднасцю і шчырасцю. Дык пакінуў я танцавальшчыкаў і пайшоў да бацькі. У яго за сталом сядзелі ўжо вяскова-гарадскія госці. Пад традыцыйную вараную і жараную бараніну пілі спірт разбаўлены ліманадам. Зараз гэта вельмі папулярны напітак. «Спірт здаровы, чысты, — гавораць. — На спірце робяць усе лякарствы». І яшчэ адзін элемент сучаснай вясковай гасціны, які стаў ужо абавязковым, неабходным звычаем — гэта асобныя для кожнага госця талерачкі, вілкі, нажы і кілішкі.

Незадоўга пачаліся песні. Самыя розныя. Ад «Кацюшы» і «Выпрагайце хлопцы коні» да інтэрнацыянальных цяперашніх: беларускай «Беласточчына», рускай «Пусть всегда будет солнце» і польскай «O mnie się nie martw».

Спяванне гэтае неяк нам не выходзіла. Толькі цётка Ніна Такаюк, з вёскі Мікулічы бясстомна прыгожым голасам цягнула песню за песняй. Урэшце яна заявіла: «Цяпер давайце заспяваем нашу родную старую», і пачала:

«Умру я, умру я і буду дывытыся,
Чы будэ мой мылы па мні журытыся?»

Песні гэтай, на жаль, ніхто не ведаў. Цётка Ніна спявала адна. Задорліва, прыгожа. А я думаў: колькі яшчэ гэтых самабытных народных песень астаецца ў памяці людзей?

**Максім Нурэцкі**



 

# Клуб любіцеляў савецкага фільма

Такі клуб існуе пры Прафесіянальных саюзах у Беластоку. Праекцыі савецкіх фільмаў адбываюцца тут у арыгінальнай версіі, гэта значыць на рускай мове ці мовах народаў СССР.

Клуб арганізуе спатканні з крытыкамі і акцёрамі, вядзе дыскусіі, робіць фотавыстаўкі і г.д. Праекцыя адбываецца раз у тыдзень, заўсёды ў панядзелкі ў 17 гадзін. У час Фестывалю савецкіх фільмаў у Клубе будзе паказана многа цікавых фільмаў.

Сядзіба клуба: Клуб ВКЗЗ у Беластоку вул. Кюры-Складоўскай (будынак прафсаюзаў). Праекцыі фільмаў адбываюцца ў кінатэатры па карнетах за 10 зл. у месяц — зразумела для членаў клуба любіцеляў савецкага фільма. Зараз у залах Дома прафсаюзаў экспануецца цікавая фотавыстаўка найбольш вядомых савецкіх фільмаў.

(вл)

## Аўтарская сустрэча

29 кастрычніка Віктар Швед спаткаўся з членамі і сімпатыкамі гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Чытаў ён вершы з нядаўна выданага зборніка «Жыццёвыя сцежкі».

(МХ)

## Літаратурны семінар

Члены літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» на сваім чарговым семінары абмеркавалі творчасць Сакрата Яновіча. Дакладчыкам быў дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Мікола Гайдук.

Галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі паінфармаваў прысутных аб магчымасцях выдання зборніка твораў нашага аб'яднання ў Мінску. Георгі Валкавыцкі быў у верасні ў Мінску і абмяркоўваў там гэтую справу з адказнымі людзьмі выдавецтва.

Трэцім пунктам семінара было чытанне новых твораў Віктара Шведа і Янкі Цялушэцкага.

(мх)

## У гарадскім аддзеле

25 кастрычніка праўленне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выслухала справаздачу старшыні Кастуся Масальскага з дзейнасці БГКТ у горадзе Беластоку ў III квартале. У дыскусіі падкрэсліваліся цяжкасці з выкананнем прынятага плана. Пастаноўлена ў студзені правесці справаздачную канферэнцыю аддзела.

(мх)




### РЭФАРМАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ

У першай палавіне XVI стагоддзя ўзнік і пачаў пашырацца ў краінах Заходняй Еўропы моцны рэфармісцкі рух. Ён быў накіраваны супроць непадзельнай уладзе каталічаскай царквы ў дзяржаве, яе непамернаму багаццю, разбэшчанасці вышэйшага кліру і непадпарадкаванню яго агульным правам і звычаям.

У тыя часы з Беларусі ў Польшчу, Чэхію, Нямеччыну і іншыя еўрапейскія краіны ездзіла шмат купцоў у справах гандлю. Многа шляхецкай і заможнай мяшчанскай моладзі вучылася там ва ўніверсітэтах. Па заходніх краінах раз'язджала дзеля забавы і развесялення заможная шляхта і магнаты. Там яны знаёміліся з рэфармісцкім рухам і часта станавіліся яго гарачымі прыхільнікамі. Таму думкі і імкненні рэфармацыі хутка прыйшлі ў беларускія землі.

Не ўсё ў рэфармісцкім руху было аднолькава прынята ў Беларусі магнатамі, шляхтай і простым людам.

Магнаты і заможная шляхта баяліся, каб пашырэнне ідэй рэфармацыі сярод гарадской бедпаты і сялянства не давяло да паўстання, як у Гданьску ці Нямеччыне. Адначасова яны імкнуліся аслабіць усясільную ўладу каталічаскага і праваслаўнага вышэйшага духавенства ў дзяржаве і загарнуць сабе царкоўныя землі і багацці.

Сярод магнатаў і заможнай шляхты найбольшай прыхільнасцю карыстаўся кальвінізм — адно з адгалінаванняў у рэфармісцкім руху. Кальвінізм вымагаў, каб царква была скромнай, недарагой, без пышнасці і пазбаўленай зямельных і іншых маёнткаў, а духавенства вяло сябе скромна і падлягала свецкім уладам.

У Беларусі пашыралі кальвінізм такія магнаты, як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Вішнявецкія і іншыя. Яны збіралі ў сваіх палацах і замках залежную ад іх шляхту, і схілялі яе прыняць новую веру. Магнаты і шляхта, прыняўшы кальвінізм, далучалі касцельныя і царкоўныя землі і прыгонных сялян, што жылі на іх, да сваіх маёнткаў, не аддавалі дзесятай долі ад сабранага ўраджаю касцёлам і цэрквам, ставілі ў парафіях новых кальвінскіх свяшчэннікаў. Рабілі яны ўсё гэта цішком і з ваганнем. Таму хутка магнаты і заможная шляхта, нічога не змяніўшы ў дзяржаве, памірылася з вышэйшым каталічаскім і праваслаўным духавенствам.

Сярод малазаможнай шляхты, купцоў і рамеснікаў рэфармацыя на беларускіх землях прыняла больш дэмакратычны і ваяўнічы характар. Гэта быў арыянізм. Арыяне лічылі Хрыста не богам, а чалавекам. Многія з іх не прызнавалі дзяржаўнай улады, выступалі супраць зямельнай уласнасці, прыгону, эксплуатацыі чалавека чалавекам, не хацелі прымаць удзелу ў войнах.

Выдатнымі прадстаўнікамі арыянізму на Беларусі былі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі.

Сымон Будны быў высокаадукаваным чалавекам. Ён заснаваў у горадзе Несвіжы друкарню, у якой друкаваў свае творы, у іх ён заклікаў любіць і шанаваць родную беларускую мову, змагаўся за вызваленне людской думкі ад рэлігійнай дэмагогіі, патрабаваў свабоднага развіцця навукі і пашырэння асветы сярод простага народа. Ён асуджаў прысвоенае магнатамі і шляхтай права ўладаць народам, абураўся пануючым у краіне свавольствам і злачынствамі феадалаў.

Будны адмаўляў боскае паходжанне Хрыста і лічыў, што духавенства не патрэбна народу. Крытыкаваў тых людзей, якія за дары свяшчэннікам і манастырам хацелі здабыць вечнае збавенне. За гэта Буднага асудзілі нават самі прыхільнікі рэфармацыі, а яго кнігі спальвалі на кастрах.

Сучаснікам і аднадумцам Буднага быў Васіль Цяпінскі. Ён з'яўляўся малазаможным шляхцічам. У сваім фальварку заснаваў друкарню, у якой выдаў царкоўную кнігу, перакладзеную ім на беларускую мову. У прадмове да кнігі Цяпінскі дакараў багатых, што яны не звяртаюць увагі на цяжкае палажэнне простага народа. Ён дамагаўся заснавання школ і пашырэння асветы ў краіне, патрабаваў навучання дзяцей на роднай мове. Цяпінскага абурала тое, што паны і свяшчэннікі трымаюць у цемры і нявуцтве беларускі працоўны люд.

Ідэі Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага знайшлі шмат прыхільнікаў на беларускіх землях. Іх дзейнасць спрыяла далейшаму развіццю культуры і мовы беларускага народа.

*ПЫТАННІ:*

*1. Як пашыралі кальвінізм на беларускіх землях магнаты і заможная шляхта, чаго яны дамагаліся?*

*2. Што прапаведвалі і чаго дамагаліся Сымон Будны і Васіль Цяпінскі?*

**ПАДАРОЖЖА Ў МАЛАДОСЦЬ** 2




Для большасці масквічоў Перадзелкіна — дачная мясцовасць, дзе ў выхадны можна добра правесці час на ўлонні прыроды. Любіцелі кур'ёзаў дабавяць, што там жывуць пісьменнікі і патрыярх усяе Русі. Для нас, студэнтаў Літаратурнага інстытута пяцідзесятых гадоў, Перадзелкіна — гэта эпоха, гэта сімвал, гэта пароль.

**ЯК БЫЛО**

Было цяжка з кватэрамі, і мы не мелі дзе жыць. Інстытуцкія ўлады, не знайшоўшы іншага выйсця, звярнуліся ў Саюз пісьменнікаў з просьбай аказаць студэнтам дапамогу ў жыллёвай справе. Неўзабаве пытанне вырашана са станоўчым вынікам. У Перадзелкіне ёсць «Гарадок пісьменнікаў». Якраз у ім апаражнілася некалькі дач. У іх нас і пасялілі. Мы сталі адзінымі маскоўскімі студэнтамі, якія жылі «на дачах». Неўзабаве прышла зіма, мы атрымалі лыжы і па-сапраўднаму ацанілі шчодрасць нашых шэфаў.

Заняткі ў інстытуце не былі лёгкія. Прыязджалі студэнты дамоў добра змучаныя. Але на змучанасць скідкі не давалі. І праца дома лічылася ў нас не менш важнай, чым лекцыі. Патрэбная была свежая галава. І гэту свежасць далі лыжы: гадзінка прагулкі па лесе.

Палюбілі мы гэты ціхі падмаскоўскі куток. І стварылі надзвычай дружную сям'ю. Летам ладзілі слаўныя пікнікі, «зверскі» гулялі ў футбол, дыктавалі свае звычаі. Перадзелкіна было наша

**ЦЯПЕР**

Мы сталі сур'ёзнымі, мы сталі адказнымі. Сашка Гевелінг — літаратурная апора калінінскага радыё. Алёшка Смольнікаў — сакратар партыйнай арганізацыі маскоўскіх паэтаў. Міша Шаўчэнка — кансультант ледзь не ўсёй літаратурнай Расіі. У кожнага з іх свае клопаты. Я таксама не ўвасабленне бестурботнасці. Але калі мы сазваніваліся і назначалі месцы нашай сустрэчы, не магло быць іншага выбару: Перадзелкіна.

І вось, маленькая частка нашай колішняй вялікай сям'і, імчымся электрычкай у запаветную краіну сваёй маладосці. Я прыліп да акна. Сябры ўсміхаюцца. Не пазнаеш? А якая наступная станцыя? Станцыі называю правільна, але краявіду не пазнаю. Гіганцкі рытм індустрыяльнай Масквы сваімі трыбамі і трыбікамі ўзварухнуў Падмаскоўе, вывеў на сталічныя арбіты.

Калі замест вёскі Сукава ўбачыў я высотны горад Сонечны, мне стала не па сабе: я ўспомніў свой некалькігадовай даўнасці беластоцкі сон. Снілася мне Перадзелкіна парэзанае гарадскімі кварталамі: было чужое і страшыла шэрымі куксамі высотных дамоў. Але вывадаў зрабіць не паспеў. У акне электрычкі паказаліся цёмназялёныя сцены Перадзелкіна. Я быў шчаслівы, што застаў краіну сваёй маладосці не кранутай часам.

Ды гэта толькі так мне здавалася. Час і тут пакінуў свае сляды. Хоць бы гэты асфальт, якім выслалы ўсе нашы балоцістыя ў непагадзь сцежкі-дарожкі. Як бы мы ім цешыліся тады! А цяпер ён нам не падабаецца.

— Давайце, хлопцы, сыдзем на пясок, — прапануе Сашка, — а то не адчуем нашага Перадзелкіна.

І мы гуськом, як калісьці, ідзем уздоўж чыгуначнага палатна. Бывала, спазніўшыся ў Маскве на апошні цягнік, тупалі па шпалах 22 кіламетры ў сваё Перадзелкіна. Гэта быў шык! Асабліва ў мяцельную зіму.

Бось і Айдаянаўка: рэчка, якую мы назвалі імем свайго аднакурсніка Айдаяна. Чаму так назвалі і якая сапраўдная назва рэчкі, не памятаем.

— Пойдзем да нашай крыніцы!

Пашлі. Але дарма топчам луг, дарма Сашка кідаецца то ў адзін, то ў другі бок рэчкі: хоча даказаць, што мы забылі месца. Крыніцы, з цудоўнай сцюдзёнай вадою, куды мы бегалі нават ноччу, няма. Засыпалі яе пры каналізацыйных працах.

Стаім і глядзім на другі бок рэчкі. Там на горцы могільнік. Пашырыўся. Заняў нават тры самотныя сосны, якія стаялі воддаль ад яго. З-пад іх зімою спускаліся мы на лыжах. Цяпер пад імі ляжыць Пастэрнак. Гэты высокі бераг і гэтыя тры сосны дасканала бачыў ён са сваёй дачы.

«Гарадок пісьменнікаў» размешчаны ў лесе, разбітым на алеі — вуліцы, абапал якіх стаяць пісьменніцкія дачы. Раней «гарадок» дзяліўся на дачы. Кожная называлася (неафіцыйна) імем жывучага ў ёй пісьменніка. Цяпер тут заведзены гарадскі парадак: кожная вуліца атрымала афіцыйную назву. І так, цяпер ходзім мы не проста па перадзелкінскім лесе, але па вуліцы Горкага, Пагодзіна, Паўленкі... Хрысціў гэтыя вуліцы не паэт.

Коўзаюся позіркам па вокнах дач, у якіх мы жылі. Але не відаць у іх знаёмых твараў, не чуваць за імі знаёмых галасоў. Тут жывуць незнаёмыя людзі. Чаго ж ты здзіўляешся, дзівак? Хочаш вярнуць сваю маладосць? Паглядзі на сівыя скроні Мішы — наймалодшага з вас. Не адчуваеш, што ўсё на свеце мяняецца? Усё? Калі я ехаў у Маскву, мяне праследвала адно пытанне: як сустрэнуць мяне колішнія сябры, якія змены на нашы адносіны палажыў час? У першых днях сваёй пабыўкі ў Маскве сустрэў я неспадзявана многа аднакурснікаў і сябраў з іншых курсаў. І найбольшым адкрыццём для мяне быў факт, што, не гледзячы на гады, у нашых адносінах усё засталося без змен. Значыць, у зменнасці ўцякаючага часу можа быць нешта сталае.

— Дык, што ж, возьмем на памяць перадзелкінскія жалуды? Мо выгадуем свае дубы?

Ці выгадуем свае дубы, не ведаю. Ведаю, што наша сяброўства, пасаджанае тут, мае глыбокія карэнні.

**Г. Валкавыцкі**

Цесната ў кабіне, гарачыня, спёртае паветра — усё гэта нагадвала парыльню. Толькі адна пані Джонсан не заўважала гарачыні. Яна паглыбілася ў свае думкі. Настаў момант, пра які яна марыла, усё здавалася ёй як у сне, а ўсе прысутныя — акцёрамі ў п'есе. Для нас, думала яна, пачынаецца штосьці жахлівае і цяжкае, і невядома, што нас чакае наперадзе. Мы ўступаем у невядомы новы свет. Усё, як у сне, зноў падумала яна, і ўсё ж гэта зусім не сон.

Прэзідэнт абняў за плечы жонку і Жаклін Кенедзі.

— А цяпер сядзьце тут, галубачка, — сказаў Джонсан аўдавелай першай лэдзі і падвёў яе да стула, які толькі што аслабаніў Стафтан. Суіндэл зноў запусціў маторы, а Джонсан, усеўшыся ў прэзідэнцкае крэсла, сказаў Лему Джонсу:

— Можна ляцець.

Джонсан загадаў падаць яму кубак булёну, пані Джонсан грызла крэкеры. Пані Кенедзі, папрасіўшы прабачэння, паднялася. Яна не хацела пакрыўдзіць




Джонсана, але ў галаве ў яе ўвесь час была думка: «Я не застануся тут, я пайду назад, туды». Паспешліва ідучы па калідоры, яна ўбачыла Кена, Лары, Дэйва і Годфры, якія стаялі ля труны. Яна села ў адно з двух крэсел з другога боку, і да яе падышоў Кен. Іх вочы сустрэліся, і яна заплакала. Яна заплакала ўпершыню: слёзы ліліся патокам, і яна доўга не магла гаварыць.

Калі Сара Х'юс спускалася па трапу, да яе падышоў чалавек «начальніцкага выгляду», як прыпамінае яна, і, паказаўшы на чорную кнігу ў яе руцэ, спытаў:

— Вам гэта трэба?

Яна пакруціла галавой.

—А гэта? — спытаў ён, паказаўшы на картку 3 на 5 дзюймаў, на якой быў надрукаваны тэкст прысягі прэзідэнта.

Ні тое, ні другое не належала ёй, і яна аддала іх гэтаму чалавеку, вырашыўшы, што гэта, напэўна, хтосьці з агентаў бяспекі. А чалавек не меў да іх ніякіх адносін.

Да гэтага часу невядома, хто гэта быў. Ён дзейнічаў смела, і яму пашанцавала. Здабыча была бясцэннай. Ён пайшоў з аэрадрома з двума сувенірамі, якія не маюць сабе роўных. Картка мае каштоўнасць толькі для калекцыянера або для музея, а кніга — іншая справа. Гэта была асабістая ўласнасць, і да гэтага часу яе не ўдалося знайсці. Так у Даласе на памяць аб Кенедзі засталася яго асабістая рэч, якую ён цаніў больш за ўсё, — яго біблія.

Успаміны розных людзей аб гэтым палёце вельмі разыходзяцца, але амаль кожны, хто знаходзіўся на самалёце, адчуваў затоеную варожасць. Макілдаф потым гаварыў, што ён «ні на адным самалёце не адчуваў сябе так кепска». Клінт Хіл расказваў аб «вельмі нацягнутых адносінах паміж людзьмі Кенедзі і людзьмі Джонсана». Некаторыя нават не спрабавалі ўтойваць гэтага. Асабліва Кен О'Донел. Джонсан двойчы пасылаў Біла Мойерса ў хваставы адсек запрасіць О'Донела і О'Брайена перайсці да яго ў салон. Яны наадрэз адмовіліся, а Годфры Макх'ю дэманстратыўна прайшоў у кабіну прэсы, каб журналісты напэўна даведаліся пра гэта. «Я хачу, каб было вядома, — сказаў ён, стукаючы кулаком па стале і тым падкрэсліваючы кожнае сваё слова, — што Кен О'Донел, Лары О'Брайен, Дэйв Паўэрс і я правялі гэты палёт у хваставым адсеку з прэзідэнтам — з прэзідэнтам Кенедзі».

Затым у хваставы адсек па даручэнню Джонсана з'явіўся Кліфтан. Кен ускіпеў:

— Вяртайцеся назад служыць свайму новаму босу! — сказаў ён.

Кліфтан спытаў у Макх'ю:

— Што гэта з ім? Я проста выконваю свае абавязкі!

### ПЕРАМІР'Е НЕ АДБЫЛОСЯ

Толькі Мойерс, самы вялікадушны з саветнікаў Джонсана, захоўваў спакой. Разумеючы, як глыбока ўсхваляван Кен, ён не рэагаваў на яго словы. Сакратарка Джонсана Мэры Фемер, з'яўляючыся ўраджэнкай Даласа, асабліва хваравіта перажывала здарэнне і паспрабавала ўнесці прымірэнне. Яна прапанавала заказаць булён для памочнікаў Кенедзі. Але яны, шчыльна сціснуўшы губы, адмоўна паківалі галовамі. Яны не хацелі супу — у сапраўднасці яны не хацелі перамір'я.

Зайшла размова аб тым, каб не дапускаць прадстаўнікоў друку на базу Эндрус. Джонсан рашуча паківаў галавой; гэта, сказаў ён, «стварыла б уражанне, што мы панікуем». Спачатку ён думаў сабраць увесь апарат Белага дома адразу ж пасля прыбыцця ў Вашынгтон, але Бандзі параіў не рабіць гэтага, напомніўшы, што ўсе занадта ўзрушаны цяжкай утратай. Мойерс згадзіўся, і Джонсан адмовіўся ад свайго намеру.

Руфус Янгблад усё яшчэ лічыў, што Джонсаны павінны правесці гэту першую ноч у Белым доме, але сам Джонсан сказаў:

— Гэта было б бястактна з майго боку. Я не магу пайсці на гэта.

Агент настойваў, запэўніваючы, што ён, Джонсан, «у першую чаргу павінен думаць аб сваёй бяспецы».

— Я гэта добра разумею, — сказаў прэзідэнт, — але хіба вы не можаце гэтак жа паспяхова забяспечыць маю бяспеку ў маім доме?

Янгблад прызнаў, што яны могуць арганізаваць варту дома Джонсана.

**(Працяг будзе)**

# ПРАФ. ЯНІНА ГУРЫНОВІЧ

У восеньскі надвячорак 6 кастрычніка Універсітэт імя М. Каперніка, прадстаўнікі навукі з розных гарадоў Польшчы, дэлегацыі ўстаноў ведамства аховы здароўя, сябры, прыяцелі і шырокія колы грамадства гор. Торуня прыйшлі на могільнік св. Юрыя, каб



правесці ў апошні шлях выдатнага вучонага і грамадскага дзеяча.

Праф. Яніна Гурыновіч з'яўляецца шырокага маштабу вучонай. Яна была выдатным спецыялістам у галіне неўрафізіялогіі, псіхіятрыі і біялогіі.

Нарадзілася на Беларусі ў Вілейскім пав. у сям'і абяднелай беларускай шляхты; бацька Язэп — родны брат бел. паэта і рэвалюцыйнага дзеяча XIX ст. Адама Гурыновіча. З 1906 па 1911 г.г. вучылася ў гімназіі ў Вільні, якую кончыла з залатым медалем. У час вучобы ў гімназіі была добра знаёмая з Браніславам Тарашкевічам і разам належалі да нелегальнай арганізацыі «Вызваленне».

З 1912 па 1917/18 г.г. вучылася ў Медыцынскім інстытуце ў Пецярбургу, які закончыла з пахвалаю. У час навукі ў Пецярбургу Яніна Гурыновіч утрымлівае цесныя сяброўскія сувязі з Бр. Тарашкевічам, які вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Дзякуючы Б. Тарашкевічу Я. Гурыновіч знаёміцца з беларускім асяроддзем у Пецярбургу, а перад усім з беларускай студэнцкай моладдзю. Праф. Я. Гурыновіч у сваіх успамінах пра Бр. Тарашкевіча*) расказвае, як яна пазнаёмілася з Янкам Купалам і інш. прадстаўнікамі бел. інтэлігенцыі.

Пасля вайны доктар Я. Гурыновіч пастаянна жыве ў Вільні і ад 1922 г. па 1939 г. працуе ва універсітэце пры кафедры неўрафізіялогіі, пачынаючы ад пасады малодшага асістэнта і канчаючы прафесарам і кіраўніком псіхіятрычнай клінікі універсітэта. Ад 1927 дэ 1929 года др Я. Гурыновіч была камандзіравана універсітэтам у Сарбону (Францыя), дзе яна спецыялізавалася ў галіне неўрафізіялогіі і псіхіятрыі ў выдатных французскіх вучоных. Пасля разгрому гітлераўскіх захопнікаў, у кастрычніку 1945 г. праф. Я. Гурыновіч пакідае Вільню і з многімі прафесарамі б. Віленскага універсітэта пераязджае ў г. Торунь, дзе ў новапаўсталым універсітэце імя М. Каперніка арганізуе кафедру неўрафізіялогіі і фізіялогіі параўнальнай і Ваяводскую амбулаторыю псіхічнага здароўя ў Торуне, якой навуковым кансультантам была да канца жыцця.

За выдатныя навуковыя дасягненні ў 1946 г. была выбрана членам карэспандэнтам Польскай акадэміі навук. З навуковых прац праф. Я. Гурыновіч выйшла з друку 91. Была яна членам шматлікіх навуковых устаноў краёвых і заграніччных.

У апошнія гады жыцця праф. Я. Гурыновіч я меў гонар і шчасце даволі часта з Ёй сустракацца на прыватнай кватэры альбо ў прафесарскім кабінеце на Кафедры неўрафізіялогіі УМК. Былі гэта прыемныя, карысныя і незабыўныя гутаркі. Зместам нашых размоў амаль выключна былі беларускія праблемы, мінулыя і сучасныя.

Неаднаразова падкрэслівала, што Беларусь — гэта для яе другая радзіма і так дарагая як Польшча, а беларускі народ і яго народную культуру любіла любоўю рамантыка.

Не гледзячы на ўсялякія падзеі і ваенныя завірухі змагла зберагчы і перахаваць дарагі скарб бел. народа — асабістыя архівы свайго дзядзькі Ад. Гурыновіча.

На свежай магіле, перад якой схілілася сотні галоў, вырас высокі курган з жывых кветак і вянкоў. На той курган былі пакладзены чырвоныя ружы і ад беларусаў, якіх я самазванча рэпрэзентаваў.

**М. Пецюкевіч**

*) Fragmenty wspomnień o kontaktach z Bronisławem Taraszkiewiczem. Maszynopis. 1966 r. s. 6




### КОЖНАМУ СВАЁ

Пасля таго, як Апель і Крыся разам з Краўхам і з трыма разведчыкамі Сівага былі перапраўлены ў горы, да партызан — чакаць прыходу Чырвонай Арміі, — на запаснай яўцы Сівага ў склепе сабраліся: Коля, Віхор, Аня, Трампчынскі і Берг.

**Віхор.** Час! Берг, вы адступайце са сваімі. Вас знойдуць людзі, якія дадуць вам палавінку фатаграфіі. Вось гэтай. Я вам звяртаю палавінку вашага сямейства. Дзеці застаюцца ў вас, вы — у мяне. Той, хто зверне вам вас, значыць, той чалавек ад мяне.

**Берг.** Вы захоўваеце гумар. Гэта дасканала.

**Віхор.** Да пабачэння, Берг.

**Берг.** Панове, як разведчык, павінен сказаць, што я ў захапленні ад вашай работы. Вам памагаў Бог. Да пабачэння, Ота, мне пачакаць вас тут ці выйсці?

**Коля.** Пачакайце тут.

**Віхор.** Коля, ну-ка адыдзем...

**Коля.** Іду.

**Віхор.** Колечка, ён табе ўжо выдаў дакументы?

**Коля.** Так. Я адкамандзіраваны камандваннем групы армій «А» у штаб РОА, да Уласава, у Прагу.

**Віхор.** Заданні ясны?

**Коля.** Ратаваць Прагу.

**Віхор.** Колечка, трымайся, браток.

**Коля.** Дзякую табе, Віхор.

**Віхор.** Гэта за што?

**Коля.** Проста так.

**Віхор.** І табе дзякую.

**Коля.** Кожную суботу ад дзевятай да дзесятай ля ўваходу ў атэль «Адлон» мяне будзе чакаць сувязь.

**Віхор.** Чалавек з двума мяшэчкамі бульбы. Пароль...

**Коля.** Я ўсё памятаю.

**Віхор.** Калі што — уцякай праз фронт...

**Коля.** Калі што — скажы маме пра... бацьку...

**Віхор.** Усё будзе як трэба. Ты сам скажаш ёй. Шчасліва, Коленька...

**Коля.** Шчасліва, Вецярок...

✲

— Аня...

— Так?

— Ты зараз пойдзеш на канспірацыйную кватэру Палека.

— Не.

— Што?

— Я нікуды ад вас не пайду.

— Маленькая, давай не будзем наладжваць карусель з загадкамі. Анечка, я проста цябе прашу.

— Мне няма для каго жыць, калі я застануся адна.

— Я вярнуся. Мы ўсе вернемся, аб чым ты? Мы сустрэнем нашы танкі і вернемся.

— Вайна — гэта ж не расклад цягнікоў.

— Аня!..

— Я нікуды ад вас не пайду. Я як сабака пайду за вамі. Хочаце — можаце прыстрэліць.

— Гэта неразумна.

— Ну і хай.

Віхор пацiснуў плячыма і ўздыхнуў.

— Як мне даказаць табе, што гэта недарэчна і непатрэбна?

— Вельмі проста.

— Ну?

— Не спрачацца. І ўзяць мяне з сабою.

Віхор адышоў да Сівага і сказаў:

— Таварышы, прашу ўсіх зверыць гадзіннікі. Заўтра мы ўбачым нашых у дзве гадзіны ночы... Наша задача — перарэзаць кабель узрыву Кракава.

У адзінаццаць гадзін вечара, калі па шашы ад Кракава адступалі немцы, у трохстах метрах ад іх на снежным полі ў маскіровачных халатах працавалі Віхор, Аня, Трампчынскі, Сівы і яго людзі. Яны даўблі мёрзлую зямлю і адцягвалі яе ў белых мяшках у лес. Яны прадзіраліся скрозь акрываўленую ледзяную, карычневую, вострую зямлю да таго кабеля, у якім была смерць Кракава. Шурф станавіўся з кожнай гадзінай усё шырэйшы і глыбейшы, а потым рукі Віхра натрапілі на браніраваны кабель. Віхор лёг на спіну і ўбачыў неба, а ў небе сярод зорак зусім побач з сабою бледны твар Ані.

— Усё ў парадку, дзяўчынка, — сказаў ён і заплакаў. — Тут. Давайце шашку, браткі, будзем узрываць. Вось ён, кабель.

У Сівага трасліся рукі і хадзіла сківаца, ён таксама плакаў.

У форце Пастэрнік пачуўся тэлефонны званок з палявога штаба, які пакінуў Кракаў яшчэ ўчора.

— Лібенштэйн, — крычаў шэф гестапа, — узрывайце да д'ябла гэты вашывы горад, войскі амаль усе прайшлі!

Лібенштэйн загадаў эсэсаўцам з аховы:

— Заводзьце машыны, ад'язджаем!

Ён падышоў да вялікіх чорна-чырвоных кнопак і, глыбока ўздыхнуўшы, націснуў іх. Выбуху не было. Лібенштэйн адкрыў вочы і павалу выдыхнуў паветра. Ён зноў націснуў на кнопкі, і зноў выбуху не было.

Зазваніў тэлефон.

— Ну?! — крычаў шэф гестапа. — Што вы там цягнеце?!

— Я націснуў на кнопкі. Выбуху няма...

— Што?! Вы зглузду з'ехалі?!

— Пане брыгадэнфюрэр...

— Бярыце ахову, у вас там сто чалавек СС, і прайдзіце па ўсім кабелі! Ясна вам?!

✲

Віхор трымаў абарону дзве гадзіны. Ён быў паранены ў грудзі, у жывот і ў абедзве нагі. Аня ляжала побач з ім непрытомная, твар белы, спакойны і прыгожы. Сівы качаўся па снягу, і навокал яго было чырвона: асколкам міны яму адарвала руку каля самага пляча. Трампчынскаму асколкам выбіла вока. Апошнія ўсе былі забіты, а эсэсаўцы наступалі з усіх бакоў. Віхор разумеў.

# ТРЫБУНА чытачоў

**У гонар 50-ай гадавіны**

## ДАРОЖНЫ ЧЫН

Жыхары вёсак Рэдуты, Тапоркі і Грабавец 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі адзначалі грамадскай працай. 22-га кастрычніка грамадскім чынам наладжвалі дарогу, якая спалучае Рэдуты і Тапаркі. Працавала тут больш 200 чалавек. Пясок на дарогу вазілі 10 трактарамі. Па дарозе, якая вядзе ў Маліннікі, у Бельскім павеце, у гэты дзень быў зроблены бетонны мосцік. Работай кіраваў Дзмітры Бахэнак і Іван Крупа.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## У ЮШКАВЫМ ГРУДЗЕ І РЫБАКАХ

У вёсках: Юшкавы Груд і Рыбакі, у Беластоцкім павеце, 23 кастрычніка адбыліся акадэміі прысвечаныя 50-ай гадавіне савецкай улады. Адкрываў урачыстасць старшыня грамадскай рады нарадовай у Юшкавым Грудзе Мікалай Міруць. Аб сусветным значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі, аб уражаннях з нядаўнай пабыўкі ў Мінску і аб 900-ай яго гадавіне расказваў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк.

Урачыстасці закончыліся паказам кінаперасоўкай ГП савецкага фільма «Аляксандр Пархоменка».

У Юшкавым Грудзе з мастацкай часткай выступалі мясцовыя школьнікі. У Рыбаках у акадэміі прыняў удзел удзельнік рэвалюцыі Іван Баршчэўскі.

(мх)

## У БЕЛКАХ

Акадэмія прысвечана Вялікаму Кастрычніку адбылася 22 кастрычніка ў Белках. З дакладам выступаў прадстаўнік Павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы Леанід Лісоўскі. Урачыстасць закончылася высвятленнем савецкага фільма.

м.л.
Белкі

## У РЭПІСКАХ І БАРЫСАЎЦЫ

19-га кастрычніка ў Рэпісках і Барысаўцы адбыліся акадэміі з нагоды 50-ай гадавіны савецкай улады. З дакладам на гэтую тэму выступаў актывіст БГКТ Міша Тэлешэўскі. Акадэміі закончыліся канцэртам эстрады «Лявоніха». У Рэпісках выступалі таксама вучні з дэкламацыяй беларускіх і польскіх вершаў.

М. Т.
Рэпіска

## СЕМІНАРЫ ВДК

Культурна-асветная парадня Ваяводскага дома культуры ў Беластоку арганізуе спецыялістычныя семінары для мастацкіх калектываў.

І так, двудзённы тэатральны семінар адбудзецца 19 і 20 лістапада.

У гэтыя 2 дні будзе праводзіцца таксама танцавальны семінар.

1—3 снежня адбудзецца семінар для грамадскага актыву клубаў «Рух» — Беластоцкага раёна.

(мх)

## БУДОВА СВЯТЛІЦЫ Ў ПЯНЬКАХ

У Пяньках (Беластоцкага павета) сяляне прыступілі да пабудовы святліцы. Пры выдатнай фінансавай дапамозе сельскагаспадарчага гуртка жыхары вёскі закупілі ў Беластоку вялікі драўляны будынак. Грамадскім чынам перавезлі яго ў Пянькі.

Ужо пабудаваны фундамент. Ідуць намаганні, каб да зімы пабудаваць святліцу. Запланавана зрабіць у гэтым будынку клуба-кавярню і памяшканне для заняткаў аматарскага калектыву.

Людзі ахвотна прыходзяць да грамадскай працы будучага культурнага цэнтра. Заслугоўвае на асаблівае падкрэсленне ахвярнасць мясцовых дзяўчат, якіх часта можна ўбачыць і пры важэнні жвіру і пры іншых працах.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я ў малым гарадку. Маю 18 год. Ужо год як я пазнаёмілася з хлопцам Жоржыкам з суседняй вёскі. Мае ён 19 год. Я з ім часта сустракалася. Але Жоржык вельмі ганаровы. Пры сустрэчы са мною гаворыць, што мяне кахае. Але вось што здарылася апошнім часам. Я знаёмая з дзяўчатамі з яго вёскі. І вось у адну нядзелю я прыехала да іх на забаву. Жоржык бачыў, што я прыехала ў яго вёску, аднак паехаў на забаву ў другую вёску. Як гэта разумець? Як паступіць пры сустрэчы з Жоржыкам, ці гаварыць з ім і паводзіць сябе так, што я яго ўвогуле не ведаю?

За параду буду ўдзячна.

Крыся з Гайнаўшчыны

**Дарагая Крыся!**

З лісту твайго вынікае, што Жоржык вельмі несур'ёзны хлапец. Бо гэта, што ён выехаў у другую вёску на забаву, бачыўшы што ты прыехала, напэўна сведчыць аб тым, што ён не кахае цябе. Дык чаму ж так гаворыць пры сустрэчы з табою? Але гэта вельмі часта здараецца ў такіх маладых гадах. Аднак ты павінна пры сустрэчы з Жоржыкам весці сябе так, як быццам бы ён быў тваім сябрам, а не нарачоным. А калі ізноў Жоржык пачне гаварыць аб каханні, тады скажы яму праўду, што ты аб гэтым думаеш. Напэўна больш не адважыцца цябе ашукваць.

Сэрцайка

## АГУРОК ВЕЛІКАН

У гэтым годзе ў агародзе Хведара Кастарэвы ў вёсцы Спічкі (Бельскі павет) вырас агурок рэдка спатыканай велічыні. Даўжыня агурка 31 см, а ў аб'ёме яго 39 см. Важыць ён 1,92 кг.

Тэкст і фота
Павел Зінкевіч
Бельскі павет

## ДАРОГІ

У грамадзе Юшкаў Груд многа зроблена ў галіне паляпшэння дарог. Гэтыя працы і далей працягваюцца. І так, напрыклад, у верасні жыхары вёсак грамады Юшкаў Груд грамадскім чынам працавалі пры рамонце дарогі Рыбакі — Гарбары. Там, дзе была патрэба, пабудавана на дарогах водныя пропускі. Такі бетонны масток-пропуск зроблены на дарозе і па-суседску са школай у Рыбаках.

Мікалай Лаўрэшук
Бандары

## ДЛЯ АБСАЛЬВЕНТАЎ СПР

Наша сельская гаспадарка ўвесь час адчувае недахопы кваліфікаваных кадраў. Да гэтага часу мала выкарыстоўваліся тыя рэзервы сілы рабочай, якімі з'яўляюцца абсальвенты школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

У гэтым годзе ў нашай краіне арганізавана першыя асродкі далейшай адукацыі для гэтых абсальвентаў. Называюцца яны «Асродкі стажовыя».

Ваяводская камісія добраахвотных брыгад працы Саюза сацыялістычнай моладзі і Саюза вясковай моладзі ў Беластоку пры дапамозе зацікаўленых установ арганізавала 5 такіх асродкаў. Адукацыя (стаж) працягваецца ад 6 да 12 месяцаў. Пасля адбыцця гэтага стажу і пасля здачы экзаменаў стажысты атрымоўваюць званне кваліфікаванага рабочага (трактарыста, агародніка, трактарыста-механіка).

У час стажу ўсе ўдзельнікі карыстаюць з бясплатнага памяшкання, часткова адплатнага харчавання. Асродкі маюць добра абсталяваныя культурна-разрыўковыя і спартыўныя памяшканні. Месячная зарплата стажыстаў — 700 зл. Даходзіць яшчэ 25% прэміі, што складзе суму каля 900 зл.

Апрача нядзель і свят стажыстам прыслугоўвае дадаткова адзін дзень водпуску на паездку да бацькоў. За гэтую паездку вяртаюцца кошты падарожжа.

У гэтым годзе Ваяводская камісія добраахвотных брыгад працы супольна з ваяводскім аб'яднаннем ПГР-аў арганізуе такі асродак у Бажымах у Элцкім павеце. Прымаюцца абсальвенты СПР (хлопцаў), якія закончылі 17 год і 6 месяцаў жыцця і не перакрочылі 24 год.

У гэтым асродку стажысты здабудуць званне «трактарыста-рольніка». Заявы прымае да 15 лістапада Ваяводская камісія добраахвотных брыгад працы ў Беластоку, вул. Прухняка 3, а таксама ўсе павятовыя праўленні Саюза сялянскай моладзі. Варта скарыстаць з гэтага курса.

С. Стоцка
Намеснік сакратара ВК ОНР
у Беластоку.

Апошнія працы ў полі.

---

што яму не ўтрымацца, таму што снег ужо выдаваўся яму ружовым, не, не ружовым, а чорным; не, не чорным, ён выдаваўся яму пясчанай мялізнай на Волзе; не, ён выдаваўся яму снегам, белым, калючым снегам, і ён зноў страляў і страляў — кароткімі, дакладнымі чэргамі. А потым кароткі штуршок у шыю — і ён перастаў бачыць, і адчуваць. І перастаў страляць.

Але ў гэты час эсэсаўцы кінуліся ўцякаць — па шашы несліся рускія танкі.

*

Старшыня імерскага суда ўвайшоў у залу. Усе ўсталі. Траўб устаць не мог: яго паднялі пад рукі паліцэйскія.

— Хайль Гітлер! — крыкнуў старшыня. — За здраду радзімы, за перадачу ворагу сакрэтных планаў камандвання Траўб асуджаецца да смяротнага пакарання. Шаснаццатага красавіка 1945 года Траўб быў гілятынаваны.

*

У Празе імжыў дождж: Коля сядзеў у нумары ў Берга і слухаў радыё. Гаварыла Масква. Коля часта падбягаў да дзвярэй: слухаў крокі. Берг жыў у гасцініцы разам з афіцэрамі СД і гестапа.

Вяртаючыся ад дзвярэй, Коля замёр, з радыёпрыёмніка ён пачуў:

— За ўзорнае выкананне заданняў камандвання ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і праяўленыя пры гэтым адвагу і мужнасць маёр Ляонаў Андрэй Фёдаравіч і малодшы лейтэнант Лебедзева Яўгенія Сяргееўна ўзнагароджаны ордэнам Леніна пасмяротна...

Коля ішоў па вячэрняй Празе. У твар яму біў вецер з даждЖом. Па горадзе паўзлі танкі. Набліжалася каменданцкая гадзіна, і горад быў пусты. Каля гасцініцы «Адлон» Коля спыніўся і пачаў чытаць аб'явы. Але ён цяпер нічога не бачыў і не чуў, апрача аднаго апошняга слова — «пасмяротна». Ён яшчэ нейк не мог да канца зразумець гэта слова, ён не мог уявіць Віхра і Анюту забітымі; ён быў скаваны адной думкай, і таму не адразу ўбачыў афіцэра СД, які прахаджваўся каля ўваходу ў афіцэрскі атэль, сціснуўшы ў руцэ два мяшэчкі са смажанай бульбай. Афіцэр СД спыніўся каля Колі і спытаў:

— У вас няма з сабою запальнічкі? У маёй бензін кончыўся...

Коля абярнуўся, казырнуў афіцэру і працягнуў яму запальнічку. Той прыкурыў, глыбока зацягнуўся і сказаў:

— У Празе ўсё дождж, дождж... Калі ж сонца?

Коля адказаў водзывам:

— Рана ці позна пагода палепшыцца... Я веру, што хутка будзе сонца...

Афіцэр у форме СД усміхнуўся і працягнуў Колі запальнічку.

— Дзякую, — сказаў ён, — вы мяне выручылі... Я толькі што прыляцеў сюды, зусім не ведаю горада. Мо вы згодзіцеся на сённяшні вечар быць маім гідам?

— Палічу за гонар, групенфюрэр, — адказаў Коля, і яны памалу пайшлі па начной Празе.

— Заўтра ў гэты ж час, — ціха сказаў афіцэр у форме СД, — каля Карлава мосту вас будуць чакаць тры чалавекі з падполля. Пароль наш. Водзыў той жа...

**КАНЕЦ**

# КІНО

**Праграма на 14—19 .XI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 14—15. „Jaskółka" (radz.), 16—17. „Klęska" (radz.), 18—19.

**Кляшчэлі**
„Złodziej samochodów" (radz.), 14—15. „Iwan Groźny (radz.), 16—19.

**Дубіны**
„Rok przestępny" (radz.), „Sąd" (radz.), 18—19.

**Нараўка**
„Wołga - Wołga" (radz.), „Nieśmiały w akcji" (radz.), 15—19.

**Нарва**
„Bariera ognia" (radz.), „Kontrybucja" (polski), 15—19.

**Чыжы**
„Czas rozłąki" (radz.), „Ich dzień powszedni" (radz.), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**
„Don Gabriel" (radz.), „Protestuję" (radz.), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), „Wódz czerwonoskórych" (radz.), 15—19.

**Орля**
„Kozacy" (radz.), „Piekło i niebo" (radz.), 15—19.

**Райск**
„Tajemnica zielonego boru" (radz.), „Sąd" (radz.), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Gdzie jesteś, Maksymie" (radz.), „Iwan Groźny" (radz.), I cz. 14—17.

**Міхалова**
„Iwan Groźny" (radz.), II s. 14—15. „Artysta do wszystkiego" (radz.), 16—17. „Złodziej samochodów" (radz.), 18—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Pancernik Potiomkin" (radz.), 14—15. „Zmartwychwstanie" (radz.), I i II s. 16—19.

**Шудзялава**
„Zejście do piekła" (radz.), „Martwe dusze" (radz.), 15—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Gwiaździsty bilet" (radz.), „Jutro Meksyk" (radz.), 15—19.

**Новы Двор**
„Wołga-Wołga" (radz.), „Kontrybucja" (polski), 18—19.

**Ліпск**
„Kraksa" (radz.), „Cierpkie głogi" (radz.), 15—19.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7627

# „Экспо 67"

Мілыя грамадзяне, гавару вам чыстую праўду, каб пабачыць сусветную выставу Экспо 67, зусім не трэба ехаць у далёкую Канаду. Хопіць паехаць да Вялікіх Подваркаў.

У самым цэнтры гэтай вёскі, каля прыпынку ПКС, стаіць пры дарозе, у садочку, мураваны павільён. Таблічкі няма, але і так кожны дагадаецца, што гэта пачакальня для падарожных. Пабудавана па навейшым праекце. Апошні крык моды! Гавару вам, гэтая пачакальня проста малінка сучаснай архітэктуры. Ох і будавалі ж яе! З вялікім мазолам. Але ўсё ж такі паставілі.

Ды які дурань абгарадзіў яе плотам?! Штахетаў ламаць якось не пасуе, бо ў нас кожны дзень людзі бліжэй падходзяць да культуры.

А вецер мала з плячэй не сарве скуры, калоціць людзьмі, аж тыя зубамі ляскочуць.

— Хто загарадзіў уваход да пачакальні? — пытаю.

Пасінелы, як курыны пуп, жыхар Вялікіх Подварак пачаў тлумачыць: — Як пачыналі будаваць гэтую выставу, то запыталіся ў бабы, бо мужыка не было дома. — Ці можам у вашым садку, панюсячка, пабудаваць пачакальню ПКС. Будзеце мець на гарачае лета халодную альтану.

— А будуйце сабе, мае мілэнькіе, — уцешылася баба.

Вядома, ад прыбытку нікому галава не трэскае.

— Баба пазволіла, але мужык заўзяўся, чаму яго аб дазвол не папрасілі. Але ўвесь час маўчаў, толькі скрыгаў, бы воўк, зубамі. Аж пакуль скончылі гэтую навачэсную архіхаўтуру.

— Архітэктура гаворыцца, — адразу паправіў малады настаўнік.

— Ну, хай будзе і архівактура, — махнуў рукою подварэц і пайшоў далей. — А як толькі пакрылі, то аж засмяяўся з радасці і пахлопаў у далоні: — «Ну, а цяпер я ім пакажу, хто тут гаспадар і ўласціцель». Усё меў прышыкаванае. За адзін дзень загарадзіў пачакальню плотам і кажа: — Бач, мая даражэнькая, вось і ўсё! Цяпер, як хочуць, хай са мною судзяцца, або плацяць дзяржаву. Ты хацела мець на гарачае лета халодную альтану. То няхай яна пастаіць якісь час... А потым дамуруем ад дарогі яшчэ адну сценку і будзем мець новенькі свінінец.

Ну-й ёсць у нас яшчэ людзі з доўгімі лычамі, якія з жыцця робяць свінінец! А нас падарожных выстаўляюць плячыма да халоднага ветру.

Цётка Мальвіна






## Думкі ясны і апалоніка

Стоячы на высокіх сходах ніколі нельга рызыкаваць, бо заўсёды можа спатыкнуцца нага.

*

Дыпламаванага асла пазнаем па галаснейшым бэку.

*

Чалавек, які лічыцца з кожным словам, менш мае непрыемнасцей.

*

Чалавека, які заўсёды хістаецца, не зломіць наймацнейшая бура.

*

Як каму жыруеш вэксаль, палічы, колькі маеш грошай.



Алесь Ставер

## Каб дома не журыліся

(Песня камандзіровачнага)

Жыве ў пакоі трое нас, —
Раскошна, а злуюся.
Бо кожны вечар ўвесь час
Адзін я застаюся.
Заходзь, сусед! Заходзь, сусед!
Вітанне, брат! Вітанне!
З табой пагутарыць, сусед,
Гатоў я хоць да рання.
Прысядзем вольна за сталом, —
За дзень мы замарыліся.
Давай частуйся тытунём, —
Каб дома не журыліся.

Пытаеш, дзе жыльцоў падзеў?
Адзін, — як певень храбры, —
Кудысь да дзевак паляцеў,
Другі — запіўся ў сябра.
А мы з табой, а мы з табой
Старэем, брат, старэем.
Правесці вечар мы з табой
Ляпей за іх сумеем.
Прыкмеціў кан'ячок я днём, —
Тры зорачкі іскрыліся...
Давай па чарачцы кульнём, —
Каб дома не журыліся.
Ты кажаш, для цябе гатэль, —
Як райскі церам звонкі.
Тут на карысць тытунь і хмель, —
Няма паблізу жонкі...
Я сам жанат, я сам жанат, —
Я знаю, брат, я знаю.
Ах, ты раней мяне жанат? —
Тады я спачуваю.
Ну тут хоць крыху адпачнём, —
Абодва памыліліся,
Давай жа песеньку спяём, —
Каб дома не журыліся.

### ЗАПРАСІЎ

— Чаго гэта цябе так доўга не відаць?

— Работы шмат... Ды яшчэ і ў суд хадзіў...

— Чаго?

— Суддзя прасіў... А суддзя ветлівы такі... Пра ўсё распытаў і папрасіў сесці...

— Ды ну?!

— Вось табе і ну... Тры месяцы і адседзеў.

### З ПІСЬМА ДА МІЛАЙ

«Усю ноч не сплю, усё аб табе думаю, Парасачка! А цяпер, калі ночы сталі даўжэйшыя, нават два разы аб табе думаю».

### «СВАЯКІ»

Суддзя: — Мо сведка радня вам?

Падсудны: — Радня то радня, але вельмі далёкая: яго бацька хацеў ажаніцца з маёю маці.

### ДЗІЦЯТКА

Аднаго разу сядзелі купцы ў двары селяніна. Гаспадыня выйшла з хаты, а хлапчук пачаў плакаць. Крычаў, пакуль не змарыўся.

— Ну, дзякуй Богу, перастаў, — кажа адзін купец.

А хлапчук, пачуўшы гэта, адказвае:

— Ага, перастаў: адпачну і зноў буду.



— Нахабства, пайшлі з работы і нават не разбудзілі.

### ПЕРАД КУПАННЕМ

— Ого, ты яшчэ бруднейшы, як я.

— Нічога тут дзіўнага... Я ж за цябе старэйшы.

### ДАСЦЬ ДЫХТУ...

— Ці бачыш? У тваю хату праз акно злодзей лезе?

— Ціха, ціха, няхай лезе! Жонка падумае, што гэта я і дасць яму дыхту.

### СМЯЛЬЧАК

У Кузьмы пытаюць:

— Ты, што гэта, ваўка сякераю засек?

— Ага, — адказвае той.

— Ды навошта ж ты яму лапы адсек, трэба ж было галаву...

— А галавы ўжо не было.

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

## Ой ты дзяўчына заручаная

ALLEGRETTO



Ой ты, дзяўчына заручаная,
Чом жа ты ходзіш засмучаная?
— Як мне хадзіці, смутнай не быці, (2 разы)
Каго люблю я, — трудна забыці.

Ой ты, дзяўчына, мыслямі блудзіш
Сама не знаеш, каго ты любіш.
— Ой, знаю, знаю, каго кахаю, (2 разы)
Толькі не знаю, з кім жыцці маю.

Ой ты, дзяўчына, чорнабрывонька
Зачаравала маё сардэнька,
Зачаравала сэрца і душу,
Цяпер да цябе хадзіці мушу! (2 разы)

## Курёзы

### Ахвяра прафесіі

Шмат гадоў касір Клейт Роджэрс з невялікага англійскага гарадка графства Эсекс штодзённа пералічваў вялікую колькасць грошай. Нарэшце гэта надакучыла яму. Тады ён схапіў пачкі банкнот, спусціўся ў падвал і спаліў. На судзе касір заявіў, што яму робіцца брыдка, калі ён бачыць грашовыя купюры. Псіхіятр прызнаў небараку нармальным, але параіў перамяніць прафесію.

### Нечаканы аўкцыён

Наведвальнік кабарэ, заўважыўшы, што згубіў кашалёк ідзе на сцэну і гучна крычыць:

— Я толькі што згубіў кашалёк з сотняй тысяч драхм. Даю пяць тысяч таму, хто мне яго верне...

З залы чуецца голас:

— Я даю дзесяць тысяч!

### Людзі і малпы

Пяцёра мужчын былі змешчаны ў спецыяльную клетку супрацоўнікамі Інстытута трапічнай медыцыны на востраве Пуэрта-Рыка (Вялікія Антыльскія астравы). Клетку пакінулі ў лесе, дзе было шмат малпаў. Аказалася, што малпы паводзяць сябе, як наведвальнікі заапарка: яны абступілі клетку з усіх бакоў і спрабавалі карміць яе палоннікаў.

### Калі трэба ісці на пенсію

Італьянскі рэжысёр Вісконці дае такую параду тым, хто збіраецца на пенсію: «Калі чалавек становіцца падобным на свой фотаздымак у пашпарце, гэта значыць, што яму пара адкінуць работу і ісці на адпачынак».




Лепшы сродак, каб ніхто не ўведаў тваіх думак, — гэта не мець іх.